№ 51 (260) 17 сьнежня 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

**ЗЬМІЦЕР БАРТОСІК: 4000 км па ідэальнай БССР**

**ДЗЕ ВАРТА БЫЦЬ: лыжныя паходы ў Налібокі і па рэчышчы Вулы**

**ЗЬЕЗД БНФ: сумнавата**

ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

## Элегантны прысуд прафсаюзам

**Урад прыняў пастанову "аб мерах па абароне правоў сяброў прафсаюзаў". Гэтым дакумэнтам, у прыватнасьці, спыняецца практыка цэнтралізаванага адлічэньня сяброўскіх складак на рахункі прафсаюзных арганізацый праз бухгальтэрыі дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацыяў краіны.**

Міністар юстыцыі Віктар Галаванаў сказаў у "Панараме", што зьяўленьне гэтага дакумэнту абумоўленае ў першую чаргу вялікай запазычанасьцю па прафсаюзных унёсках, утрыманых з зарплаты работнікаў, але не пераведзеных на рахункі прафсаюзаў. Сума яе перасягнула 3 млрд. рублёў. Гэтымі грашыма прадпрыемствы ліквідуюць запазычанасьці па заробках, за энэрганосьбіты, камунальныя паслугі. Міністар прапануе (а не загадвае) наймальнікам усіх відаў і формаў уласнасьці да 1 лютага пералічыць у прафсаюзны фонд грошы, якія яны вінныя на 1 снежня 2001 г. А каб у будучыні такой сытуацыі не ўзьнікала, надалей прафсаюзныя ўнёскі будуць плаціцца асабіста работнікам, а не вылічацца аўтаматычна зь ягонага заробку.

Урад сьцьвярджае, што гэтая пастанова адпавядае Канстытуцыі, не парушае Канвэнцыі Міжнароднай арганізацыі працы, у адпаведнасьці зь якой наймальнікам забаронена ажыцьцяўляць нейкія захады, якія перашкаджаюць выплаце прафсаюзных унёскаў. "Гэтая пастанова скіравана на далейшую абарону правоў працоўных, і перш за ўсё членаў прафсаюзу", — мяркуе міністар юстыцыі.

Прафсаюзы трымаюцца іншае думкі. Яны бачаць у гэтым рашэньні незаконны акт і палітычную помсту ФПБ за ўдзел Ганчарыка ў выбарах і вернасьць Ганчарыку пасьля выбараў.

У выніку зьмены формы выплаты ўнёскаў узмацніцца адток сяброў з ФПБ. Можа адбыцца "разузбуйненьне" Фэдэрацыі, ад якой адкалоцца асобныя галіновыя саюзы. ФПБ давядзецца зьмяніцца, каб захаваць работнікаў у сваіх шэрагах. Інакш ФПБ ператворыцца ў суполку з абмежаванай адказнасьцю па кіраваньні маёмасьцю, атрыманай у спадчыну ад савету. Кшталту цяперашняга Беларускага саюзу моладзі.

Можна лічыць, што правы ўрад Навіцкага на "савецкія прафсаюзах" як часткі дзяржаўнае машыны паставіў крыж. Калі толькі прафсаюзы не дадуць задні ход і сымбалічна не разьвітаюцца з Ганчарыкам. Тады як бач усё адкруціць назад. Прафсаюзы выходзяць з выбарчае кампаніі слабымі як ніколі.

**Мікола Бугай**

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Вось толькі вішанькі ніводнай няма чамусьці, маглі хоць бы галінку ў вазачку паставіць", — скардзілася бабулька ў трэцім шэрагу. І ўсё ж гледачы часьцей пляскалі ў далоні, чым задавалі пытаньні. Найстарэйшы актор тэатру імя Якуба Коласа Фёдар Шмакаў, які граў Фірса, быў гэтым вечарам непаўторны са сваім адвечным "Эх ты, недарэка!", што па-расейску гучыць як "Эх ты, недотёпа!"

*Советская Белоруссия*, 13 сьнежня.

Пра маскоўскія гастролі Коласаўскага — старонка 4.

"Краме" 10 год

## Ня ўсе памром

Артыкулы пра "Краму" зазвычай пачынаюцца са словаў "Крама" выйшла з комы..." або "Крама" прачнулася..." Аўтары зь дзіцячым зьдзіўленьнем зазначаюць: мы думалі, што гурту кадук, а яны — бач ты — яшчэ даволі жвавыя... Ні ў якай коме "Крама" ніколі не была. Проста рытм-энд-блюз, якога трымаецца гурт, — крыху ня тая музыка, якая дазваляла б зараз выдаваць альбомы мільённымі тыражамі ды ладзіць грандыёзныя туры па Эўропе (калі ты, вядома, ня Мік Джагер). Аматараў гэтага кірунку — як сярод выканаўцаў, так і сярод спажыўцоў — менш, чым прыхільнікаў гранджу ці гэвімэталу. Аднак на рытм-энд-блюз нельга перахварэць. Любоў да яго застаецца на ўсё жыцьцё. Таму ўспрымаецца ён не адразу, а нейкім другім ці трэцім узроўнем пачуцьцяў. "Крама", як славенскі *Don Mentoni Band* або расейская *Лига блюза*, стадыёнаў не зьбірае, але сярод тых, хто ходзіць на ейныя канцэрты, выпадковых людзей мала.

Ёсьць і яшчэ адна прычына рэдказа зьяўленьня "Крамы" на публіцы ў апошнія гады. Рок-гурт, якім бы прафэсійным ён ні быў,

Працяг на старонцы 2.




**Харвацкі тэнісіст Горан Іванішавіч, пераможца леташняга Ўімбледону, у лістападзе быў прызваны ў войска. Служыць ён будзе 6 месяцаў — да траўня — у прыморскім Спліце, ягоным родным горадзе. Старонка 4.**

## Вік выказаў сымпатыі да мовы

**Кіраўнік місіі АБСЭ Ганс-Георг Вік сустрэўся з прадстаўнікамі ТБМ.** Абаронцы беларускай мовы прасілі Віка пасрпрыяць таму, каб Эўрапарлямэнт выдзеліў грошы на стварэньне незалежнага беларускамоўнага спадарожнікавага каналу. Г.-Г.Вік паставіўся да ідэі прыхільна, але параіў пашукаць грошай у беларускай дыяспары. Пытаньне пераходу справаводзтва місіі на беларускую мову не ўзьнімалася. Затое Вік — кажуць, упершыню — прэзэнтаваў А.Трусаву беларускамоўную візытоўку. Пасол АБСЭ таксама ўхваліў уменьне ТБМ наладзіць дыялёг з уладамі – а пра яго ён даведаўся з газэты ТБМ "Наша слова".

На мінулым тыдні нямецкі дыплямат таксама зьвінаваціў беларускія спэцслужбы ва ўсталяваньні апаратуры для падслухоўваньня ў офісе Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЭ ў Менску. "Яны запісвалі зьмест усіх сустрэчаў, што адбываліся тут. Між тым гэтыя сустрэчы і дыскусіі былі цалкам адкрытыя", — заявіў сп.Вік агенцтву "Інтэрфакс".

А ў сваім інтэрвію для *Deutsche Welle* Вік заявіў, што у наступныя 10 гадоў Беларусь, нягледзячы на далёка ня простую цяперашнюю сытуацыю, мае шанцы быць у першых шэрагах эўрапейскай дэмакратыі. Беларусь будзе сябрам Рады Эўропы, АБСЭ і, хутчэй за ўсё, уступіць у Эўразьвяз. На пытаньне карэспандэнткі "Нямецкай хвалі", ці няма ў гэтым прагнозу вялікай долі аптымізму, Вік адказаў: "Не, гэта рэальнасьць".

**Барыс Тумар**

### Набажэнствы ў Курапатах

**Хлопцы зь Беларускай Партыі Свабоды, якія ахоўваюць спакой курапацкага нэкропалю, заклікаюць людзей прыходзіць у Курапаты на набажэнствы** і просяць дапамагчы набыць яшчэ адзін намёт для часовай капліцы. Штонядзелю а першай гадзіне ў Курапатах адбываецца набажэнства. Служыцца малебен і тры-чатыры екцэньні, Малітва за Беларусь, за беларускі народ і беларускіх пакутнікаў у Курапатах.

### Маўрытанская рыба

**Беларусь зьбіраецца лавіць рыбу каля Маўрытаніі і цяпер шукае, дзе набыць адмысловы карабель.** Ужо падлічана, што "маўрытанская" рыба будзе таньнейшая за нарвэскую недзе ў 1,5, а за расейскую ў 1,2 разу.

**Сяржук Іваноўскі**

### Якубовіч – паслом у Нямеччыну

**Паводле нашай інфармацыі з МЗС, разглядаецца магчымасьць прызначэньня галоўнага рэдактара *Советской Белоруссии* Паўла Якубовіча паслом у Нямеччыну.** Месца Якубовіча ў такім выпадку можа заняць М.Дубовік, былы галоўны рэдактар газэты "Рэспубліка".

**Б.Т.**



## Вынікі году

падвядзяць Алесь Чобат, Валерка Булгакаў, Павал Севярынец, Сяргей Паўлоўскі, Віктар Шніп, Людміла Рублеўская,

## і Сем апавяданьняў на сем зімовых вечароў

Марыя Вайцяшонак, Натальля Бабіна, Марыя Роўда, Адам Глёбус, Вінцэсь Мудроў, Сяргей Астравец і Аляксандар Ірванец у перакладзе Ўладзімера Арлова ***ў Калядным нумары "НН".*** Ён выйдзе 28 сьнежня, у пятніцу, ужо па графіку наступнага году, на 24 старонках.

камэнтар рэдакцыі

# Самаакупны Ламаносаў

**Навука павінна стаць рэнтабэльнай галіной народнай гаспадаркі, заявіў на прэсавай канфэрэнцыі ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Анатоль Лесьніковіч, старшыня Камітэту па навуцы пры Савеце Міністраў Беларусі.** Паводле ягоных словаў, “асаблівых абмежаваньняў для зарабляньня грошай у навукі сёньня няма: гаспадарчыя дамовы і камэрцыйныя праекты даюць вучоным дадатковыя заробкі, ёсьць важкая падтрымка навукі з боку замежных грантадаўцаў”.

*Нацыянальная* навука, як і *нацыянальная* школа, *нацыянальная* царква, *нацыянальнае* мастацтва цэмэнтуюць дзяржаву. На этапе станаўленьня нацыі бязь іх не абысьціся — як Расея не абышлася без Ламаносава, царскасельскага ліцэю, опэраў Мусаргскага. Беларускі ўрад думае задаволіцца адной нацыянальнай бюракратыяй. Памыляецца.

Без гіганцкіх інвэстыцыяў у нацыянальную навуку, нацыянальную школу, нацыянальную царкву, нацыянальнае мастацтва дзяржава застанецца слабой, якой яна і была з 1991 да 2001 г. Слабой ня ў сэнсе вайсковае ці рэпрэсіўнае магутнасьці. Слабой па здольнасьці ўзьдзейнічаць на грамадзтва, *праводзіць* палітыку. Лукашэнкаўская дзяржава ўмее толькі сьцяліцца пад плебс, дагаджаць яму, нават калі той патрабуе чалавечых ахвяраў і руйнаваньня сьвятога. Вось і ўся “сільная ўласьць”.

Навука, як і школа, мусіць працаваць на аўтарытэт і стабільнасьць дзяржавы. Патрабаваць іншае рэнтабэльнасьці ад Інстытутаў ядравай фізыкі ці гісторыі — пустаслоўе або дурасьць.

## Галоўная яліна Беларусі

**Галоўную яліну Беларусі ўсталявалі 12 сьнежня на Кастрычніцкім пляцы сталіцы.** Ялінка мае вышыню 32 мэтры, складаецца з 121 елачкі вышынёю ад 1 да 6 мэтраў. Летась галоўная яліна таксама была зборная, але складалася з 79 елачак.

## Нас душаць астма і бранхіт

**Мэдыкі канстатуюць у Беларусі рост хваробаў органаў дыханьня.** За апошнія пяць гадоў гэты рост склаў 15%. А яшчэ за апошнія 10 гадоў у Беларусі ўдвая павялічылася колькасьць дзяцей, хворых на астму. Прычым на Гомельшчыне такіх стала амаль у 4 разы болей, на Магілёўшчыне — у 3 разы.



МАКСІМ ПРУЛАС

# Ня ўсе памром

**Працяг са старонкі 1.**

выжывае й здабывае папулярнасьць толькі тады, калі ў ім ёсьць хаця б адзін чалавек, што разглядае яго як бізнэс-праект. Ці ведаў бы хто-небудзь сёньня пра “Бітлз”, калі б ня мэнэджэр Алан Уільям, які павёз лівэрпулскіх хлапцоў у Нямеччыну? У “Крамы” няма нармальнага камэрцыйнага дырэктара, ня кажучы ўжо пра нармальнага спонсара. Гэта ў сярэдзіне 90-х, калі гурт падтрымлівала “Дайнова”, былі і Каляды з “Крамай”, і канцэрты ў Моладзевым тэатры, і альбом *Vodka in ice*, запісаны ў Галяндыі. Дый дзяржаўная палітыка не перашкаджала тады збліжэньню афіцыйнае культуры ды андэграўнду. Рокераў запрашалі на фэсты ў Маладэчна, на Дні гораду разам з аркестрам Фінбэрга, а тыя самыя “Крама” ды “Палац” запісалі песьню “Гомельскі вальс” зь Ярмоленкам. За Лукашэнкам прорву між “афіцыйным” і “нефармальным” ізноў пракапалі. Зрэшты, наўрад ці між Варашкевічам і, скажам, “Сябрамі” існуе нейкі антаганізм — гэты разрыў месьціцца ў нашай сьвядомасьці. І пакуль мы ня здолеем аб’яднаць іх у адну беларускую культуру, яна ня будзе паўнацэннай. Гэтаксама, як і гісторыя — калі ў ёй не ўжывуцца, скажам, Езавітаў і Машэраў.

Часта рытм-энд-блюзавыя гурты гінуць ад таго, што далей за традыцыйны “квадрат” (як музычны — абмежаванае спалучэньне акордаў, так і тэкставы — агульнапрынятую “блюзавую” тэматыку) нічога ня бачаць. “Крама” намагаецца ня быць кандовай — дзьве самыя, відаць, раньнія постмадэрнісцкія кампазыцыі ў нашым року належаць якраз ёй. Гэта макаранічны “Польскі бізнэс”, які выклікае папросту авацыю ў тых, хто хоць раз у пачатку 90-х матануўся ў Польшчу “на спшэдане”, і *We are going down* (маўляў, *усе памрэм, пойдзем на дно, усіх нас урэшце перамогуць*), зьлепленая з цытатаў нямецкіх, эстонскіх ды малдаўскіх песьняў.

Тэксты “Крамы” цяжка назваць паэтычнымі — у вершах “Крама” нашмат саступае “Ўлісу”, “Новаму небу”, зь якімі працавалі Аксёнцаў, Анемпадыстаў, Глёбус, — але гурт заўжды ўмее падаць рэчы істотныя і вечныя бязь лішняга патасу, проста і спакойна, часам нават схематычна — дадумвайце, маўляў, самі:

Ты шукаў свой сьветлы край,
ты шукаў свой дзіўны рай.
Што ты знайшоў у тых палёх?
Што ты знайшоў у чужых краёх?

І няма ў “Крамы” зорнае стомленасьці, якую часам заўважаеш на канцэртах гуртоў значна ніжэйшага ўзроўню. Прастата ў стасунках са слухачамі — што праўда, без панібрацтва. Вельмі інтэлігентны гурт.

**Сяргей Мікулевіч**

з усёй краіны

## Бяз сувязі

**На прадпрыемствах Івацэвіччыны, якія не заплацілі за сувязь, пачалі адлучаць тэлефоны.** Замаўчалі яны ў сельгасупраўленьні і аддзеле адукацыі райвыканкаму, Косаўскім МПА, ААГ “Івацэвічдрэў”, Даманаўскім ПТК, на Целяханскім лесагаспадарчым прадпрыемстве, у калгасах імя Леніна, “Сьвітанак”, аграфірме “Беларусь”. Да прыкладу, у аддзеле адукацыі зь пятнаццаці ўсталяваных тэлефонаў працуе толькі адзін — у загадчыка.

## Лебядзіная нявернасьць

**На пачатку сьнежня, калі моцна пахаладала, людзі заўважылі ў кар’еры ля Бярозаўскага ЗСВ пару белых лебедзяў.** Мясцовыя грынпісаўцы ніяк не маглі дабрацца да іх: лёд быў тонкі, а глыбіня вадаёму — 20 мэтраў. Удавалася іх толькі карміць. Пасьля адзін з пары далучыўся да чарады лебедзяў, што ляцела ў вырай. Другога выратаваў жыхар вёскі Самойлавічы Пятро Цімашук. Ён перабінтаваў птушцы зламанае крыло і зьмясьціў яе ў свой курнік. Белы прыгажун цудоўна адаптаваўся ў курэй.

**Аляксандар Горбач, Івацэвічы**

## Аўтобус зьбіў жанчыну

**У аўторак на вуліцы Берасьцейскай Баранавіч гарадзкі аўтобус № 3 зьбіў пэнсіянэрку.** Яна пераходзіла вуліцу па пераходзе. Аўтобус падмяў яе пад сябе, працягнуў колькі мэтраў і даўся ў слуп. Каб дастаць жанчыну з-пад аўтобусу, давялося выклікаць кран МНС. Аўтобус давялося выразаць са слупа, кранам уздымаць. Толькі пасьля гэтага ахвяру аварыі здолелі дастаць. Жанчына памерла на месцы. У навакольлі яе ведалі як алькагалічку. Цяпера суд павінен вызначыць, хто вінаваты.

**Равяка Руслан, Баранавічы**

## Ня грэюць і ватовак не даюць

**На асіпавіцкім заводзе “Каммаш” тэмпэратура ў рабочых і адміністрацыйных памяшканьнях каля нуля.** Адміністрацыя заводу вырашыла не ўключаць ацяпленьня, бо няма грошай. Рабочым не выдаюць нават ватовак, бо “не паложана”. Замерзла эмульсія ў некаторых станках, разьмерзьліся трубы водаправоду, частка рабочых, асабліва жанчыны, папрастывалі й сядзяць на бюлетэнях. Калі хто знаходзіць іншую працу — зьбягаюць як мага хутчэй.

**Рыгор Латышэвіч, Асіпавічы**

## Ён нарадзіўся тут

**У сьнежні адзначаюцца 125-я гадавіна з дня народзінаў Мечыслава Карловіча — кампазытара, дырыжора, зьбіральніка фальклёру.** У якасьці першага выдатнага сымфаніста (напісаў 7 сымфоніяў) ён увайшоў у гісторыю польскай нацыянальнай музыкі. Аднак ганарыцца яго імем маюць права і беларусы, бо нарадзіўся Мечыслаў у мястэчку Вішнева, што недалёка ад Смургоняў. Нездарма яго “Літоўская рапсодыя” створана на аснове беларускіх народных песень.

**Тацяна Скарынкіна, “Новая газета Смаргоні”**

лісты ў рэдакцыю

# Не губэрня!

**У Горадні чарговае сьвята — 200-годзьдзе Гарадзенскай губэрні. Праводзяцца юбілейныя мерапрыемствы, зьявіліся артыкулы ў мясцовым друку, абнавілася экспазыцыя ў гістарычным музэі, у абласной бібліятэцы рыхтуецца “круглы стол” з удзелам гісторыкаў і касьцюмаваны бал для тутэйшага чынавенства.**

Калі ўжо сьвяткаваць 200-годзьдзе заснаваньня Гарадзенскай губэрні, то можна заадно адсьвяткаваць і 170-годзьдзе зьяўленьня на пасадзе гарадзенскага грамадзянскага губэрнатара М.Мураўёва - знакамітага Мураўёва-вешальніка. Ён заняў гэты пост у 1831 г., у разгар Лістападаўскага паўстаньня. Адным зь першых ён загадаў павесіць шляхціца Міхала Валовіча з Ваўкавыскага павету, чым і заслужыў мянушку “вешальнік”. У ягоны гонар галоўная вуліца Горадні доўгі час звалася Мураўёўскай. Дык мо адродзім назву дзеля ўшанаваньня 200-х угодкаў утварэньня Гарадзенскай губэрні?

Уся прамысловасьць Горадні часы расейскага панаваньня - гэта сьвечачная, суконная, тытунёвая вытворчасьць і бровар. Напрошваецца паралель зь дзейнасьцю гарадзенскага старасты Антонія Тызэнгаўза, які за 15 год (1765-1780) свайго кіраваньня каралеўскімі ўладаньняміператварыў Горадню ў эўрапейскі культурны цэнтар. Ён заснаваў тут Мэдычную акадэмію, а таксама сярэднія навучальныя ўстановы, тэатар опэры і балету, шматлікія мануфактуры, збудаваў новы адміністрацыйна-гаспадарчы раён зь велічнымі палацамі, паркамі, аранжарэямі. Акрамя славутага францускага навукоўца Жылібэра, Тызэнгаўз запрасіў у Горадню працаваць Жана-Жака Русо і той даў згоду прыехаць (сьмерць пісьменьніка перашкодзіла зьдзейсьніцца гэтым плянам).

І самае галоўнае, пра што маўчаць арганізатары псэўдасьвята. Гарадзенская губэрня з 1843 году ўключала ў сябе Беластоцкі, Бельскі і Сакольскі паветы. Дык што, вяртайце нам Беласточчыну, панове?

**Альбіна Семянчук, Горадня**

# Яшчэ пра тэлеправграму

**Хацелася б сказаць пару словаў наконт тэлепраграмы.** Улічваючы тое, што ў Беларусі няма ніводнай беларускамоўнай штотыднёвай газэты, накшталт расейскіх “*АиФ*” ці “*КП*”, гэта справа добрая. Але “НН”, на мой погляд, газэта больш сур’ёзнага, культурна-аналітычнага напрамку. Таму тэлепраграму друкаваць ня варта. І выходзіць лепей па аўторках: і пачатак тыдня, і адразу па ўсёй краіне. А ў пятніцу хай выходзіць другі нумар або дадатак (напрыклад, “НН+”) з тэлепраграмай, навінамі, спартовай і крымінальнай хронікай і г.д. Трэба пачынаць выпускаць розныя дадаткі, на любы густ (дзіцячы, спартовы і г.д.). А тэлепраграму я б вам параіў друкаваць адразу ў некалькіх газэт. Дамоўцеся з іншымі незалежнымі беларускамоўнымі выданьнямі й друкуйце адзіны на ўсіх дадатак з тэлепраграмай, рэклямай і гумарэскамі. Будзе і таньней, і ахопіць больш чытачоў. А таксама запрашаем вас на сустрэчу з вашымі барысаўскімі чытачамі.

**Алег Лучына, Барысаў**

дакумэнт

ПРАКУРАТУРА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСІ

07.12.2001. № 14/146-97

Старшыні грамадзкага аб’яднаньня “Дыярыюш” Андросік Л.

Пракуратурай Рэспублікі Беларусі разгледжаны Ваш зварот з просьбай пра абнародаваньне вынікаў дадатковага расьсьледаваньня матэрыялаў крымінальнай справы, узбуджанай у 1988 г. па факце выяўленьня пахаваньняў людзей ва ўрочышчы “Курапаты” паблізу Менскай кальцавой аўтамабільнай дарогі.

Матэрыялы крымінальнай справы з самага пачатку яе расьсьледаваньня асьвятляліся ў друку. Арганізоўваліся публікацыі ў газэтах і часопісах, выступленьні па радыё і тэлебачаньні, выдадзена кніга. Вынікі расьсьледаваньня шырока выкарыстоўваліся ў палітычнай барацьбе. Узьніклі дыскусіі, спрэчкі. У пракуратуру Рэспублікі пачалі паступаць звароты ад імя грамадзкіх аб’яднаньняў і асобных грамадзян, у якіх ставіліся пад сумненьне вывады сьледзтва аб тым, што ў пахаваньнях знаходзяцца толькі ахвяры палітычных рэпрэсій, і прыводзіліся аргумэнты на карысьць таго, што расстрэлы людзей у “Курапатах” маглі праводзіцца таксама і нямецкімі акупацыйнымі ўладамі ў гады айчыннай вайны. Гэтыя вэрсіі былі распрацаваны пры першапачатковым расьсьледаваньні крымінальнай справы недастаткова глыбока.

У сувязі з гэтым у верасьні 1997 пастанова аб спыненьні справы была адменена і ўзноўлена вытворчасьць па справе.

Як першапачатковым, так і дадатковым расьсьледаваньнем устаноўлена, што ў 1937—1940 гадах органамі НКВД зь месцаў зьняволеньня вывозіліся ва ўрочышча “Курапаты” людзі і там расстрэльваліся.

Разам з тым ёсьць шэраг паказаньняў сьведкаў, якія сьцьвярджаюць са спасылкамі на іншых асоб, што ва ўрочышчы “Курапаты” расстрэлы людзей праводзілі таксама і нямецкія акупацыйныя ўлады ў пэрыяд айчыннай вайны. Аднак іх немагчыма пацьвердзіць аб’ектыўнымі дадзенымі. Пошукі неабходнай інфармацыі па гэтым пытаньні ў архіўных установах Рэспублікі і ў Расеі аказаліся безвыніковымі.

Пры дадатковым расьсьледаваньні справы былі арганізаваны раскопкі 23 меркаваных пахаваньняў. Пры гэтым толькі ў 9 зь іх аказаліся чалавечыя астанкі. Астатнія яміны, прызнаныя раней пахаваньнямі, насілі характар прыроднага паходжаньня і пахаваньнямі не зьяўляліся. На падставе гэтага была зроблена выснова, што першапачаткова колькасьць ахвяр у пахаваньнях была завышана на некалькі парадкаў.

Знойдзены прадметы асабістага ўжытку ў выглядзе конавак, лыжак, гумовага абутку і іншыя рэчы, выраблены ў Германіі, Польшчы, Аўстрыі, Чэхіі. Кожны з бакоў у палітычным проціборстве трактуе гэтыя доказы па-свойму: адны — у пацьвярджэньне вэрсіі, што гэта немцы з эўрапейскіх краін прывозілі людзей і там расстрэльвалі, другія — што ў ліку пахаваньняў знаходзяцца астанкі жыхароў Заходніх абласьцей Беларусі, далучаных да Рэспублікі ў 1939 г. Пацьвердзіць або абвергнуць гэтыя вэрсіі аб’ектыўнымі доказамі няма магчымасьці.

У шэрагу пахаваньняў знойдзены нажы, небясьпечныя брытвы, дэталі зброі, флякон з капсюлямі, прыстасаваньне для вырабу боепрыпасаў. Пераканаўчых тлумачэньняў таму, як гэтыя рэчы апынуліся ў пахаваньнях, няма. Такі промах для работы органаў НКУС таго часу не характэрны.

У працэсе расьсьледаваньня справы ўдалося ідэнтыфікаваць астанкі толькі трох чалавек. Пры ўскрыцьці пахаваньняў знойдзены квітанцыі аб канфіскацыі ў іх грошай пры арышце, датаваныя кастрычнікам 1939 і чэрвенем 1940 гадоў. Крымінальных спраў на гэтых асоб няма. У сувязі з гэтым няма магчымасьці высьветліць, дзе яны жылі, чым займаліся і што ім ставілася ў віну.

Дадатковае расьследаваньне праводзілася ў рамках крымінальнай справы, узбуджанай у 1988 годзе, матэрыялы якой шырока асьвятляліся ў друку. Дастатковых падстаў для паўторнага асьвятленьня матэрыялаў названай справы не знаходжу.

**Начальнік аддзелу па наглядзе за выкананьнем закону ў войсках і на транспарце, старшы саветнік юстыцыі А.Доўбыш**

**Археоляг Алег Іоў гэтак адкамэнтаваў адказ пракуратуры: “Пустыя ўпадзіны, пра якія піша сп.Доўбыш, ляжаць за межамі курапацкіх пахаваньняў, і раскопкі ў іх праводзіліся дзеля пэўнасьці, ці няма там чалавечых астанкаў. Таму першыя лічбы курапацкіх ахвяраў, выведзеныя падчас следзтва 1988—89г., – 30 тыс. чалавек, якія ляжаць у межах курапацкіх пахаваньняў, — не зьмяншаюцца. У працэсе разбору справы ў 1997—99 г. удалося ідэнтыфікаваць парэшткі трох чалавек. Мне вядомыя імёны двух расстраляных. Гэта габрэі Мардэхай Шулескес і Мойша Кранэр. Канфіскацыя грошай у іх адбывалася у гарадзенскай турме ў 1940 г., што адлюстравана ў знойдзеных у магілах афіцыйных блянках квітанцый”.**

***Цытуецца паводле рэлізу прэс-службы ініцыятывы “За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты”.***

зьезд БНФ

# Здрабненьне спыніць не ўдалося

Нават калі ты ня сябар БНФ і ніколі ім ня быў, але палітычна выйшаў з эпохі канца СССР і змаганьня за незалежнасьць, стан БНФ ня можа табе не балець. БНФ для цябе падсьвядома больш, чым партыя, гэта *альтэрнатыва*, гэта *наша* сіла ў яе чыстым выглядзе. Можна быць абыякавым да пытаньня расколу чацьвертае сацыял-дэмакратычнае партыі на пятую і шостую, але ня тое з БНФ.

Расколу не адбылося, усё прайшло інтэлігентна. І тое добра. А што бывалі ў гісторыі БНФ мерапрыемствы цікавейшыя, чым суботні-нядзельны зьезд, дык што ж? Бывала, зьбіраліся ў Вільні. Бывала, віталі воплескамі відэазапіс звароту Пазьняка. Бывала, працу зьездаў асьвятлялі замежныя тэлеканалы. Бывала, зьезд рабіўся арэнай сьветапогляднага канфлікту — Хадыкі і Пазьняка, Вячоркі і Пазьняка. Гэта было, было... Учорашні сход уяўляў сумнаватае апазыцыйнае відовішча. Неадладжаны мікрафон. Купка партыйных старшыняў у прэзыдыюме. Малады Фронт зь непісьменнымі ўлёткамі з "прозьбай" падтрымаць сваіх кандыдатаў у Сойм. Сябры ўсюдыісныя і небязьвядомай Партыі Свабоды ў кожным холе. Дробна драбніца, але як жа знаёма!

Суперніцтва Вячоркі і Сіўчыка, як ні разьдзімалі яго асобныя СМІ, не было ані інтрыгоўным, ані ідэйным. Брыдка ўжо і паўтараць, што эканамічнае праграмы ня меў ні той, ні той. Пераможа Вячорка, які мае большы арганізацыйны і інтэлектуальны патэнцыял, чым апанэнты. Той Вячорка, які сам няўтульна пачуваецца ў старшынёўскім крэсьле. Яму хацелася б быць акадэмікам, прафэсарам, міністрам замежных справаў, а тутака — партыяй кіруй. Аднак адмовіцца няма як, бо надзейнае зьмены не відаць. Хадыка хворы, Баршчэўскі й Бяляцкі ня хочуць. Да Сіўчыка няма поўнага даверу. А БНФ жа трэба захаваць, бо гэта больш, чым партыя. І Вінцук не адважваецца кінуць тое, што яму якраз, па вялікім рахунку, найменш патрэбнае. Адказнасьць за Беларусь абавязвае. Бо яна, Беларусь, нібыта страціць, калі...

Самае цёплае, што бывае на гэткіх зьездах, — супольны абед дэлегатаў. Хто прывёз колца кілбаскі, хто яблыкі... Алесь Пушкін, дэлегат ад Бабра, частаваў мяне кменным белым сырам, прыгатаваным жонкаю Янінай. У Бабры зьбіраюцца замазаць яго́ную фрэску з выявай Лукашэнкі ў пекле. Благачынны загадаў: раз Лукашэнка выйграў выбары, трэба замазаць. Адбараніць фрэску — не адбароніш. Што рабіць?

Бадай, у кожнага з дэлегатаў зьезду быў свой малы вялікі клопат, кшталту пушкінскага. Ды толькі на падобных зьездах не задзіночваюцца яны ў супольны вялікі, унівэрсальны клопат. Ня дзіва, што пятая частка дэлегатаў на зьезд не зьявілася. Хто яны, гэтыя людзі? Што для іх БНФ? Навошта ім было тое дэлегацтва?

Зьезд адбываўся на фоне раздраю. Самага дробязнага раздраю ў апазыцыі за ўсе 10 гадоў. Уладальнікі "Мэджыку" пасварыліся дый самі спынілі друкарскі станок. "Хартыя" ўручае прэмію абаронцам Курапатаў, абаронцы адмаўляюцца яе браць, бо "Хартыя", аказваецца, спрыяла расколу Партыі Свабоды. Заадно выяўляецца, што ў курапацкім намёце застаюцца толькі сябры БПС.

Лідэры апазыцыі самі адмовіліся ад прынцыпу ідэйнасьці як умовы пропуску ў апазыцыю. Прымалі ўсіх. Цяпер горка расплачваюцца.

Адзін з дэлегатаў зьезду БНФ, даўні актывіст арганізацыі зь сярэдніх памераў гораду, добры паэт і заўзяты турыст — з тых людзей, на якіх трымаецца беларушчына ва Ўсходняй Беларусі і зь якімі заўжды добра пагаманіць, — расказаў, як праходзілі верасьнёўскія выбары ў іх. Адзіным участкам, на якім Ганчарык перамог Лукашэнку, аказаўся лячэбна-працоўны прафілякторый. Выбарчую камісію там складалі афіцэры ўнутраных войскаў. На ўсіх іншых участках пераканаўча перамог Лукашэнка. На думку дзядзькі, вялікіх падтасовак не было. Мясцовым фронтаўцам удалося таемна правесьці ў адну з участковых камісій "сваю" настаўніцу (дарэчы, таксама дэлегатку зьезду). І яна фальшаваньняў не назірала.

У які тупік загналі апазыцыю лукашысты: яе выкруцілі гэтак, што вылучыць сваім кандыдатам яна мусіла Ганчарыка, а галасавалі за яго найбольш у ЛПП.

Як зьмяніць сытуацыю? Як прыцягнуць у беларусафільскія палітычныя сілы вядомых людзей, прафэсіяналаў, маральных аўтарытэтаў? Шлях адзін: новае аб'яднаньне ўсіх — "*усіх гэтых Пазьнякоў і Лябедзек*", як кажуць непрыяцелі — у супэрпартыю. Адмова ад эгаістычных інтарэсаў. Шанаваньне рэдкіх у партыйных шэрагах гаспадарнікаў і дзеячоў культуры. Каб сядзелі ў прэзыдыюмах яны, а ня зьнуджаныя партбосы. Мараторый на любыя публічныя міжусобіцы. Калі старая апазыцыя не зьзнаецца "зьверху", па выніках мясцовых выбараў умацуецца новая апазыцыя, лукашэнкавай гадоўлі.

У душы жадаючы БНФ посьпеху, толькі посьпеху і столькі посьпеху, колькі ўвогуле можа быць, з такіх зьездаў выходзіш упэўнены ў абмежаваным эфэкце тваіх зычэньняў, пакуль пісаньне фрэсак, гатаваньне кменнага сыру і выданьне беларускай граматыкі ня будуць усьвядомленыя як нешта першаснае, важнейшае за партыйную справу. Базыс, як казаў Маркс. Партыі — толькі надбудова яго.

**Барыс Тумар**




УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

**Вячорка застаўся старшынём. Сіўчык (справа) застаўся сябрам Сойму, але страціў пасаду намесьніка старшыні — нягледзячы на новы імідж. Бяляцкі (у цэнтры) адмовіўся балятавацца ў намесьнікі на новы тэрмін.**

## Вынікі зьезду

У выніку таемнага галасаваньня старшынём БНФ быў пераабраны Вінцук Вячорка. З 347 дэлегатаў, якія бралі ўдзел у галасаваньні, за яго выказаліся 246. Вячаслаў Сіўчык набраў 81 голас. 189 дэлегатаў станоўча ацанілі дзейнасьць БНФ і яганага кіраўніцтва, нездавальняюча – 70, устрымаліся – 47. Намесьнікамі старшыні абралі Г.Сямдзянаву, Ю.Хадыку, В.Івашкевіча, П.Севярынца. У Сойм абралі 55 сяброў. 53 зь іх былі прапанаваныя мінулым складам Сойму. З прапанаваных не ўвайшоў у Сойм толькі гарадзенец Мікола Баўсюк (замест яго – Сяргей Бахун зь Берасьця). А Лявон Баршчэўскі сам зьняў сваю кандыдатуру і прапанаваў замест сябе Алеся Міхалевіча, кіраўніка забароненага ўладамі Маладзевага інфармацыйнага цэнтру.

## БХК патрабуе рэабілітаваць Геніюш

**Беларускі Хельсынскі камітэт зьвярнуўся ў Саюз пісьменьнікаў і да ўраду Чэхіі з просьбай даць усе неабходныя зьвесткі пра творчы й жыцьцёвы шлях вядомай беларускай паэткі Ларысы Геніюш.** Гэтыя матэрыялы з патрабаваньнем рэабілітацыі Геніюш і ейнага мужа Янкі будуць накіраваныя да Лукашэнкі, у Вярхоўны Суд і ў пракуратуру. У 1990 і 1997 г. пракуратура адмаўлялася яе рэабілітаваць.

## Разьвіцьцё сувязяў зь Літвой

**Дырэкцыя Клайпэдзкага порту мае намер заснаваць сваё прадстаўніцтва ў Менску, а беларусы — консулят у Клайпэдзе.** Паводле паведамленьняў літоўскага друку, аб'ём грузаў зь Беларусі ў Клайпэдзкім порце за апошнія гады падвоіўся й складае цяпер амаль 4 млн. тонаў штогод. Гэта пятая частка ўсяго партовага грузазвароту. Дэпутат літоўскага Сойму ад Клайпэды этнічны беларус Вацлаў Станкевіч заяўляе пра павелічэньне беларускіх грузаў у порце як першачарговую задачу. Сваё прадстаўніцтва ў Клайпэдзе мае намер адчыніць і канцэрн "Белнафтахім". Да гэтага часу большая частка прадукцыі канцэрну экспартавалася праз латвійскі Вэнтспілс.

## Азаронка засудзілі

**Суд прызнаў Беларускае тэлебачаньне й яго́нага рэжысэра Юр'я Азаронка вінаватымі ў абразе гонару, годнасьці й дзелавой рэпутацыі лідэра АГП Анатоля Лябедзькі** (казалі на яго, што ён прывёз з-за мяжы тысячы даляраў). Суд абавязаў абвергнуць распаўсюджаную супраць Лябедзькі непраўдзівую інфармацыю й спагнаць на ягоную карысьць 600 тыс. рублёў з БТ і 400 тыс. рублёў з Азаронка.

## Казуліна ня здымуць

**Чуткі пра адстаўку рэктара БДУ Аляксандра Казуліна выявіліся няпраўдай.** Студэнтаў палохалі зьменай рэктара ці то на "свайго" (аднаго з прарэктараў), ці то на "варага" (называлася імя Ўладзімера Замяталіна). Казалі таксама, што здымаць рэктара прыедзе асабіста "бацька" — 8 сьнежня, на адкрыцьці Інтэрнэт-цэнтру ў БДУ. Але цяпер кажуць, нібы Казулін цьвёрда трымаецца на сваім месцы, бо здабыў падтрымку недзе ў Маскве. Адкрыцьцё таго самага інтэрнэт-цэнтру фундавала расейская нафтавая кампанія *ЮКОС*.

## Мікрааўтобусамі – праз Берасьце й Дамачава

**З 10 сьнежня аднаўлены рух грузавых і грузапасажырскіх мікрааўтобусаў праз пункты пропуску Варшаўскі мост і Дамачава на беларуска-польскай мяжы.** Рашэньне польскага боку аб аднаўленьні руху мікрааўтобусаў там часовае — да адкрыцьця пераезду ў Брузгах.

**А.Воршыч**

## пацярпелыя за Беларусь

9 сьнежня ў Баранавічах былі затрыманыя 9 "зуброўцаў" зь ліку тых, што з партрэтамі зьніклых палітыкаў прайшліся па цэнтры гораду. Трое з затрыманых былі няпоўнагадовыя. Падатковая інспэкцыя патрабуе ад грамадзкага аб'яднаньня "Грамадзянскія ініцыятывы" (Гомель) пералічыць у бюджэт звыш 6 млн. рублёў. На думку старшыні арганізацыі Віктара Карніенкі, такія эканамічныя санкцыі азначаюць фактычнае спыненьне дзейнасьці "Грамадзянскіх ініцыятываў". У Берасьці 9 сьнежня былі затрыманыя Паліна Панасюк, Васіль Барболін, Уладзімер Малей, Генадзь Самойленка, Уладзімер Вялічкін, Раіса Антанюк. Імёны іншых затрыманых будуць паведамленыя ў наступным нумары. Галоўнаму рэдактару "Пагоні" Міколу Маркевічу далі 50 мінімалак штрафу за пікет у абарону закрытай судом газэты, які адбыўся 19 лістапада.

# Сумнеўны альянс

## *Збліжэньне Беларусі і Ізраілю*

**Міністэрства абароны Баўгарыі абвясьціла міжнародны тэндэр на правядзеньне рамонту й мадэрнізацыі 20 баявых самалётаў МіГ-29, набытых яшчэ ў Савецкага Саюзу. Тэндэрам ужо зацікавіліся пяць замежных кампаніяў, у тым ліку адна ізраільская. Кампаніі не называюцца.**

**У гэтым кантэксьце цікава глядзіцца візыт у Сафію, які адбыўся на мінулым тыдні, аднаго з найбольш уплывовых функцыянэраў лукашэнкаўскага рэжыму, віцэ-сьпікера палаты прадстаўнікоў Уладзімера Канаплёва. Апроч "разьвіцьця міжпарлямэнцкіх сувязяў" і ўскладаньня кветак да магілы Невядомага салдата ў памяць пра ахвяры нью-ёрскіх тэрактаў, Канаплёў меў шэраг дзелавых сустрэчаў. Яны маглі датычыць і тэндэру ў справе рэканструкцыі МіГаў. Калі такая інфармацыя пацьвердзіцца, гэта будзе азначаць далейшае паглыбленьне беларуска-ізраільскага супрацоўніцтва ў вайскова-прамысловай сфэры. Канаплёў — старшыня камісіі палаты прадстаўнікоў у справе супрацоўніцтва з ізраільскім Кнэсэтам. Ягонаму візыту ў Сафію папярэднічаў прыезд ізраільскага міністра нацыянальнай інфраструктуры ды энэргетыкі Авігдора Лібэрмана ў Беларусь. Ён сустрэўся з Канаплёвым, Латыпавым, а таксама зь міністрам замежных справаў Беларусі Хвастовым ды міністрам прыродных рэсурсаў Харужыкам.**

**Беларуска-ізраільскія адносіны аналізуе Сяргей Носаў.**

Палітычнае збліжэньне Беларусі і Ізраілю пачалося пасьля таго, як абедзьве краіны апынуліся ў міжнароднай ізаляцыі й зазналі крытыкі з боку АБСЭ за парушэньне правоў чалавека.

На парлямэнцкіх выбарах 2000-га прысутнічалі назіральнікі з Ізраілю, пасьля чаго ў газэце Аб'яднаньня габрэйскіх грамадзкіх арганізацыяў і грамадаў Беларусі *Авив* была надрукаваная заява віцэ-мэра гораду Карміэль (там ці ня больш за ўсё "постсавецкага" насельніцтва) пра тое, што выбары адбыліся ў поўнай адпаведнасьці з законам.

Сёлета з 31 жніўня да 7 верасьня ў Дурбане (ПАР) адбывалася Сусьветная канфэрэнцыя ААН супраць расізму. Аднак усе расавыя праблемы на ёй зьвяліся да абмеркаваньня аднае краіны і аднае праблемы — палестынскае: большасьць заняла антыізраільскую пазыцыю. Рух недалучэньня (гэтак званы "Трэці сьвет"), які калісьці "прабіў" рэзалюцыю Аб'яднаных Нацыяў аб тым, што "сіянізм — гэта фашызм", дагэтуль займае вельмі моцныя пазыцыі ў ААН. Антыізраільскую пазыцыю занялі і Ангельшчына з Францыяй. Міністар замежных справаў Вялікай Брытаніі д-р Роў спэцыяльна для іранскага часопісу

**Працяг на старонцы 4.**

цытата тыдня

# Пра здраду радзіме

**Аляксандар Лукашэнка на сустрэчы з даверанымі асобамі, якія працавалі ў яго́най камандзе на выбарах:** "Але я хачу, каб вы ведалі, што я прэзыдэнт Беларусі. І тыя інтарэсы, якія павінны быць захаваны, нашай дзяржавы, нашага народу, нас з вамі, ім ніколі здрады ня будзе. ...Я ні ў кога ні капейкі ня ўзяў, і мне ня трэба прадаваць прадпрыемствы нейкім расейскім алігархам. Я нікому ня здам Беларусь, пакуль я прэзыдэнт".



тэракты ў Расеі

# Беразоўскі абвінавачвае ФСБ

**У пятніцу прадпрымальнік Барыс Беразоўскі зьвінаваціў расейскія спэцслужбы ў арганізацыі выбухаў у Маскве й Валгадонску ўвосень 1999 г.**

"Я ўпэўнены, што спэцслужбы мелі дачыненьне да выбухаў будынкаў у Маскве й Валгадонску. Упэўнены, бо тое, што адбылося ў Разані (у верасьні 1999 г. там таксама быў знойдзены гексаген, які падчас "вучэньняў" заклалі ў жылыя дамы супрацоўнікі ФСБ — **С.Р.**), — гэта дакладная мадэль таго, што адбылося ў Маскве й Валгадонску. Мадэль, якую не атрымалася рэалізаваць", — заявіў



Беразоўскі, выступаючы ў тэлемосьце з удзельнікамі маскоўскай канфэрэнцыі "Грамадзянская супольнасьць і правы чалавека".

"Я не магу сказаць напэўна, што Пуцін асабіста камандаваў гэтымі апэрацыямі і што ён асабіста загадваў узрываць дамы. Але тое, што выбухі ў Маскве — справа рук спэцслужбаў, — гэта абсалютна дакладна... Калі нехта мяркуе, што гэта правакацыя з майго боку, то я гатовы сустрэцца з гэтымі людзьмі ў судзе".

Беразоўскі, які ў свой час займаў пасаду сакратара Рады бясьпекі, кажа, што ўварваньне ў Дагестан аддзелаў Басаева й Хатаба было таксама арганізаванае маскоўскімі спэцслужбамі. Прадпрымальнік упэўнены, што пра падзеі, якія мелі адбыцца ў Дагестане, "проста ня мог ня ведаць" Уладзімер Пуцін, які ўзначальваў тады ФСБ. Напрыканцы Беразоўскі падкрэсьліў, што чачэнскае пытаньне ня мае ваеннага вырашэньня.

**С.Р.**





**13 сьнежня 1981 г. у Польшчы было абвешчана ваеннае становішча. Спыніліся цягнікі, былі адлучаныя тэлефоны, уведзеная камэнданцкая гадзіна, пачаліся масавыя арышты, узмацнілася цэнзура. Сёлета па ўсёй краіне прайшлі дэманстрацыі з патрабаваньнем нарэшце пакараць вінаватых у чалавечых ахвярах у той час. Правыя расклеілі паўсюль улёткі з тэкстам абвяшчэньня ваеннага становішча, перакрэсьленыя словам "Памятай". Найбольш арыгінальна 20-годзьдзе з часу ўвядзеньня ваеннага становішча адзначыла *Gazeta Wyborcza*. Ейная апошняя старонка была копіяй першай, толькі з цэнзурнымі праўкамі, якія б, напэўна, унесла вайсковая цэнзура.**

**Аляксей Дзікавіцкі**

страйк у Вэнэсуэле

# Адзінота на парадзе

**Вэнэсуэльскія прадпрымальнікі правялі першы ўсеагульны страйк супраць палітыкі тамтэйшага "народнага заступніка" Уга Чавэса. 12-гадзінную забастоўку па ўсёй краіне ладзіла арганізацыя прыватных прадпрымальнікаў *Fedecamaras* і аб'яднаньне прафсаюзаў *CTV*:**

Відавочцы сьцьвярджаюць, што Каракас яшчэ ніколі ня быў такім пустым, як падчас усеагульнага страйку. Спынілася пад 90% недзяржаўных прадпрыемстваў, працавалі толькі міністэрствы й самае вялікае прамысловае прадпрыемства краіны — дзяржаўная нафтавая манаполія *PDVSA*.

Усё пачалося тры тыдні таму, калі прэзыдэнт Чавэс сваімі дэкрэтамі істотна зьмяніў 49 эканамічных законаў — павялічыў, напрыклад, канцэсійны падатак на эксплюатацыю нафтавых радовішчаў з 16 да 30%, увёў сваю "залатую акцыю" — абавязковую 51-адсоткавую долю ўдзелу дзяржавы ва ўсіх прадпрыемствах нафтавай галіны й паабяцаў перадаць вялікія прыватныя маёнткі-лятыфундыі безьзямельным сялянам.

*Fedecamaras* і *CTV* абвесьцілі, што будуць баставаць, але Чавэс адмовіўся скасаваць дэкрэты, прыгразіў рэпрэсіямі ды пакляўся, што ягонай народнай рэвалюцыі ніхто ня можа перашкодзіць, нават "надзьмутая рэакцыйная алігархія".

У дзень страйку Уга Чавэс прымаў паветраны парад. Гуд самалётаў глушыў бразгат рондаляў і накрывак, якім вэнэсуэльцы выказвалі сваю нязгоду з уладай. У процівагу "гарадзкім" забастоўшчыкам урад прывёз у Каракас вяскоўцаў — прыхільнікаў прэзыдэнта, а масты, скрыжаваньні й бэнзакалёнкі на ўсякі выпадак пільнавалі вайскоўцы й паліцыянты.

Гэты страйк быў самым значным пратэстам супраць Чавэса з часу апошніх прэзыдэнцкіх выбараў 1998 г. Ягоная папулярнасьць, якая два гады таму складала больш за 80%, упершыню ўпала ніжэй за 50%.

Нездарма: абвешчаная Чавэсам "Вялікая баліварыянская рэвалюцыя" абмежавалася барацьбой з "прадажнымі" палітыкамі, капіталістычнымі алігархамі і каталіцкімі біскупамі. Яшчэ "вялікі рэвалюцыянэр" падтрымліваў калюмбійскіх партызанаў-левакоў ды хаваў былога кіраўніка сакрэтных службаў Пэру Мантэсінаса. Колькі месяцаў Чавэс палымяна адмаўляў, што Мантэсінас знаходзіцца ў Вэнэсуэле, пакуль апошняга ня высачыла ў Каракасе амэрыканскае ФБР.

Вэнэсуэльскі прэзыдэнт нічога не зрабіў, каб вызваліць эканоміку краіны ад залежнасьці ад продажу нафты (яна дае 80% экспарту). Эканамічнага ўздыму не адбывалася, беспрацоўе па-ранейшаму трымалася на ўзроўні 16%, квітнела карупцыя, нечувана вырасла злачыннасьць, а вера, што можна ператрываць дзякуючы нафце, пачала падаць разам з цэнамі на яе.

Першая ўсеагульная акцыя пратэсту супраць вэнэсуэльскага лідэра ўдалася. Чавэс, што праўда, выхваляецца: "Я з рэакцыйнымі алігархамі дамаўляцца ня буду! Няхай вашывыя багатыры й прафсаюзныя пэнсіянэры выкінуць з галавы думку, што нас можна прымусіць адступіць. Цяпер мы наадварот павінны хутчэй ажыцьцявіць нашыя пастановы".

**Сяргей Радштэйн**

вайна ў Аўганістане

# Амэрыка нікога не баіцца

Вайсковая апэрацыя ў Цэнтральнай Азіі заканчваецца. Амэрыка непахісна ішла да сваёй мэты, кіруючыся здаровым эгаізмам і нацыянальнымі інтарэсамі. Нягледзячы на існаваньне антытэрарыстычнай кааліцыі, відавочна, што перамога належыць амэрыканцам. Вашынгтон ня мае патрэбы ў ваеннай дапамозе — наадварот, саюзьнікі ствараюць для амэрыканскіх вайскоўцаў мноства праблемаў. Ваенны міністар ЗША Рамсфэльд наўпрост кажа: "Наша найвялікшая праблема ў тым, што мы ня здольныя прыняць і прымяніць прапанаваную дапамогу".



REUTERS

Амэрыканцы падкрэсьліваюць, што не вымагаюць ад кожнай краіны падтрымкі ўсюды і заўсёды, а будуць праводзіць гнуткую лінію перамены саюзаў. У Вашынгтоне кажуць, што хаўрус трэба зьбіраць для выкананьня канкрэтнай місіі, а не зьбіраць кааліцыю і пасьля вызначаць ейныя мэты.

Выйграная аўганская кампанія — гэта, па словах амэрыканскіх кіраўнікоў, толькі адна пераможная бітва вялікае вайны з тэрарызмам. У Пэнтагоне аўганскую кампанію ахрысьцілі "Імклівая свабода" і паабяцалі выйграць гэтае змаганьне любой цаной, не зважаючы на тое, колькі часу гэта забярэ.

Узьнікла датычная барацьбы з тэрорам "дактрына Буша". Згодна зь ёй, злачынцам будзе лічыцца і той, хто дае тэрарыстам прытулак, бо трэба даць зразумець усім, што супрацоўніцтва з тэрарыстамі — справа нявартая й нявыгадная, незалежна ад ідэйна-палітычнай "афарбоўкі" гэтых тэрарыстаў. "Нельга ненавідзець Аль-Каіду і сябраваць з Хізбалагам", — кажа дарадчыца амэрыканскага прэзыдэнта ў замежнапалітычных пытаньнях К.Райс. Тэарэтычна супрацоўніцтва з тэрарыстамі і раней лічылася нягодніцтвам, але цяпер існуе канкрэтны прыклад, да чаго яно можа прывесьці.

На гарызонце вымалёўваюцца новыя цэлі для амэрыканскіх барацьбітоў з тэрарызмам — гэта, перш за ўсё, Ірак. Пра выправу "на Садама" гавораць усюды — ад Пэнтагону да Дзяржаўнага дэпартамэнту і Сэнату. Кісынджэр тлумачыць амэрыканскую пазыцыю: "Дзяржавы, якія маюць хімічную і біялягічную зброю, павінны быць падвергнутыя строгім інспэкцыям. Перадусім я маю на ўвазе Ірак". Бжазінскі кажа яшчэ больш адкрыта: "Усё роўна, ці замяшаны Ірак у арганізацыі тэрактаў, — ён пагражае нашай бясьпецы".

Амэрыканскія паводзіны зьяўляюцца прыкладам праўдзівай *Realpolitik*. Перамагае той, хто не баіцца.

**С.Р.**

## Расейцы ашчаджаюць на радарах

**Камандуючы радыёлякацыйнымі войскамі Расеі паведаміў,** што з мэтай эканоміі паветраная прастора паміж Уралам і Курыльскімі астравамі, апроч вузкае палоскі пры мяжы з Казахстанам, Манголіяй і Кітаем, ня будзе кантралявацца радарамі. Асабовы склад радыёлякацыйных сілаў Расеі пасьля распаду СССР скарацілі на 60%.

## Падводнік Дудко апазнаны

**У вайсковым шпіталі Севераморску апазнанае цела старшага памочніка камандзіра атамнай падводнай лодкі "Курск" капітана 2-га рангу беларуса Сяргея Дудка.** Сяргей Дудко нарадзіўся ў Пінску, дзе цяпер жыве ягоная маці.

## Самая дарагая вядучая сьвету

**Вядучай праграмы навінаў *Today* на тэлеканале *NBC* Кэці Курыч прапануюць шматгадовы кантракт прыблізна на 100 млн. даляраў.** Калі яна застанецца ў кампаніі, ёй абяцаюць плаціць 14 млн. даляраў у год — гэта будзе самы высокі заробак на гэтай пасадзе ў гісторыі.

## Зноў адчынілі Пізанскую вежу

**Пасьля 12 гадоў рэстаўрацыі для наведнікаў зноў адчынілася Пізанская вежа.** За гэтыя гады італійскія спэцыялісты здолелі замацаваць яе, але і надалей зь меркаваньняў бясьпекі на вежу будуць пускаць адначасова ня больш за 30 турыстаў. Абяцаюць, што зараз яна прастаіць 300 год ня падаючы.

## Сьпіс сусьветнай спадчыны пабольшаў

**У сьпіс сусьветнай спадчыны ЮНЭСКА ўключаны 31 новы аб'ект.** Сярод іх узбэцкі горад Самарканд, гістарычны цэнтар Вены, горад сярэднявечных кірмашоў Экс-ан-Праванс у Францыі, руднікі Вялікай Меднай гары ў Фалуне (Швэцыя), старое места Гояс у Бразыліі і іншае. Упершыню ў сьпіс трапілі аб'екты з Ізраілю і Батсваны. Цяпер у сьпіс ЮНЭСКА ўваходзяць 554 культурныя помнікі з 124 краін сьвету.

## Расейцы ідуць у Польшчу і Славаччыну

**Расейскі "Лукойл" на працягу бліжэйшых двух год інвэстуе 10 млн. даляраў у разьвіцьцё польскай сеткі газаправодаў,** заявіў віцэ-прэзыдэнт кампаніі Раліф Сафін на прэс-канфэрэнцыі ў Варшаве. "Лукойл" таксама зацікаўлены ў прыватызацыі польскіх хімічных заводаў. Іншы расейскі канцэрн, "Юкас", нядаўна выйграў тэндэр на прыватызацыю славацкай фірмы "Транспэтрол", уладальніка славацкага кавалка трубаправоду "Дружба". 49% пакету акцый абышліся яму ў 74 млн. даляраў. Вынікі тэндэру яшчэ павінен зацьвердзіць урад Славаччыны.

## Пяць гадоў за здраду

**У сераду францускі суд прызнаў вінаватым у дзяржаўнай здрадзе былога маёра францускай арміі П'ера Бюнэля.** Падчас службы ў францускай місіі ў штаб-кватэры *NATO* той перадаў сакрэтны плян бомбавых удараў па Бялградзе агенту Мілошавіча. У выніку Францыю адхілілі ад удзелу ў складаньні ваенных плянаў *NATO*. А Бюнэлю далі пяць гадоў турмы.

## Трагедыя на вясельлі

**У іранскім горадзе Казьвін падчас шлюбнай цырымоніі малады задыхнуўся, падавіўшыся накладным пазногцем маладой.** Паводле іранскай традыцыі, маладыя павінны былі зьлізаць мёд з пальцаў адно аднаго, каб сумеснае жыцьцё было салодкім. Нявеста ў шокавым стане трапіла ў больніцу.

## Родныя дзеці

**Швэдзкі суд абавязаў донара спэрмы плаціць аліманты на трох дзяцей, зачатых з дапамогай ягонага эякуляту парай лесьбіянак, якія празь дзесяць год вырашылі разьвесьціся.** Але вышэйшы суд хутчэй за ўсё адменіць вэрдыкт, бо паводле швэдзкіх законаў донар спэрмы ня можа лічыцца юрыдычным бацькам дзіцяці і пазбаўлены ў дачыненьні да яго любых правоў і абавязкаў.

## Народны паэт Канады

**Канадзкія парлямэнтарыі прынялі пастанову аб заснаваньні афіцыйнай пасады "нацыянальнага паэта" пры парлямэнце,** які б пісаў творы з нагоды важных падзеяў і выконваў абавязкі кансультанта пры галоўным бібліятэкару парлямэнту. Афіцыйнага паэта будзе абіраць на два гады кіраўніцтва парлямэнту.

## Партызаны перад судом

**Латвійская пракуратура абвінавачвае двух былых савецкіх партызанаў у генацыдзе латыскага народу.** На сёньня ў такіх злачынствах абвінавачана ўжо дзесяць былых партызанаў і супрацоўнікаў КГБ.

## Латыская мова — будзе!

**Прэзыдэнтка Латвіі Вайра Віке-Фрайбэрге абвесьціла, што расейская мова ніколі ня стане другой дзяржаўнай мовай краіны.** Насельніцтва Латвіі зараз на 40% складаецца зь нелатышоў.

**Паводле інфармацыі з Інтэрнэту**

# Камунальная рэформа

У абяцаньнях ураду павялічыць да 2005 г. "даляравыя" заробкі беларусаў у 2,5 разу, а рэальныя даходы толькі на 80—85% няма ніякае супярэчнасьці. Справа ў тым, што галоўным напрамкам лібэралізацыі эканомікі будзе паступовае скасаваньне "перакрыжаванага субсыдыяваньня" — калі адмыслова нізкія тарыфы на ацяпленьне, электрычнасьць і газ для насельніцтва кампэнсуюцца за кошт прадпрыемстваў, якія, у сваю чаргу, выплачваюць работнікам меншыя заробкі.

Зараз беларусы рэальна аплачваюць каля 20% ад кошту камунальных паслугаў. Яшчэ 50% выдаткоўваецца зь бюджэту, а 30% пакрываюць прадпрыемствы праз адмыслова завышаныя тарыфы. Гэта адбіваецца на кошце прадукцыі прадпрыемстваў і яе канкурэнтаздольнасьці, беларускія вытворцы хутка губляюць ня толькі замежны, але нават унутраны рынак. Дый дзяржава часам "выцягвае" за грошы камунальнай сфэры іншыя галіны прамысловасьці. З-за безграшоўя камунальшчыкі таксама вымушаныя "ашчаджаць". Прыкладам, да пачатку гэтай зімы яны адрамантавалі ўдвая менш аварыйных будынкаў, чым планавалі на пачатку году. Сытуацыя з аднаўленьнем камунікацыяў увогуле блізкая да крытычнай. На сёньня трэба мяняць пад 70% беларускіх цеплатрасаў. Праз 5—6 гадоў краіну можа разьбіць "камунальны паралюш" кшталту таго, што давялося мінулай зімой бачыць у тэлерэпартажах з расейскіх Далёкага Ўсходу і Сібіры.

Урад разумее гэтую небясьпеку, таму ў лістападзе ён прапанаваў плян камунальных рэформаў. Налета насельніцтва Беларусі змусяць плаціць 40% ад сапраўдных камунальных выдаткаў, у 2003 г. — 60%, а яшчэ праз год — 80%. Сабекошт абслугоўваньня "сярэдняй" аднапакаёўкі ўлетку каля 20, двухпакаёўкі — 30, трохпакаёўкі — 40 даляраў. Узімку, калі ўключаць ацяпленьне, гэтыя лічбы складуць, адпаведна, 30, 45 і 60 даляраў.

Ужо зараз сем'і, што выдаткоўваюць на камунальныя паслугі болей за 15% свайго бюджэту, маюць права аплачваць астатнюю частку за кошт дзяржаўных субсыдыяў. З-за невысокіх тарыфаў карыстаецца гэтым правам толькі блізу тысячы сем'яў па ўсёй Беларусі. З падвышэньнем кватрплаты папулярнасьць жыльлёвых субсыдыяў вырасьце. Тым больш што "планка" мінімальных выдаткаў можа ўзьняцца да 25%, як гэта адбылося ў нашых суседзяў.

Субсыдыі атрымаюць збольшага пэнсіянэры і тыя, хто няшмат зарабляе. Іншыя будуць думаць, як ашчадзіць свае грошы. Гэтак, з падвышэньнем тарыфаў беларусы назаўсёды разьвітаюцца з завядзёнкай ацяпляць кватэры газам, паліць бяз дай прычыны сьвятло і набудуць ёмістасьці для мыцьця посуду — толькі гэта дазволіць зьменшыць спажываньне вады, ацяпленьня, электрычнасьці і газу на 30—40%. На рынку камунальных паслугаў утворыцца канкурэнцыя. Ужо зараз камунальшчыкі прапануюць адмаўляцца ад дзяржаўных ЖЭСаў і ствараць таварыствы па супольным абслугоўваньні шматпавярховікаў. Закон гэта дазваляе.

Апроч камунальшчыкаў, выйграюць ад рэформаў толькі тыя, у каго няма ўласнай кватэры. Папершае, падвышэньне камунальных выдаткаў змусіць прыкладна 30 тыс. грамадзянаў, якія маюць цяпер па 2 і болей кватэры, прадаваць нерухомасьць, што выкліча зьніжэньне рынкавых цэнаў. Падругое, досьвед камунальных рэформаў у Прыбалтыцы сьведчыць, што праз паўгоду пасьля скасаваньня "перакрыжаванага субсыдыяваньня" распачынаюць атрымліваць значна болей грошай працаўнікі прамысловых прадпрыемстваў. А яшчэ праз 1—3 месяцы вырастуць і заробкі бюджэтнікаў — мэдыкаў, настаўнікаў, навукоўцаў, культурнікаў ды сацыяльных работнікаў, бо з падвышэньнем даходаў прамысловасьці аўтаматычна павялічваюцца пералічэньні ў бюджэт. У такіх варунках усе грамадзяне, што працуюць, маюць нашмат большыя шанцы вырашыць свае кватэрныя праблемы, не чакаючы дзесяцігодзьдзямі дзяржаўных крэдытаў.

**Сяржук Іваноўскі**

## як у іншых?

### ЛАТВІЯ

**У Латвіі, дзе насельніцтва яшчэ з пачатку 90-х аплачвае 100% камунальных паслугаў, зараз ці ня самыя высокія тарыфы.** Узімку за аднапакаёўку трэба плаціць пад 60, за двухпакаёўку — 80, за трохпакаёўку — 150 даляраў, а ўлетку недзе ў паўтара разу меней. Агулам камунальная сфэра зьядае 25—30% даходаў сярэдняй латыскай сям'і.

Малазабясьпечаныя грамадзяне маюць права арандаваць "сацыяльную кватэру", плаціць за якую трэба ўтрая менш. Гэта не азначае, што трэба абавязкова некуды зьяжджаць — сацыяльнай можа лічыцца любая кватэра ў старым доме ці доме невысокага камфорту. Аднак права займаць такія кватэры маюць толькі грамадзяне краіны.

### УКРАІНА

**Камунальная рэформа ва Ўкраіне распачалася ў 1995 г., калі адразу ў 12 разоў падаражэла ацяпленьне, у 10 разоў — вада, у 8 разоў павялічылася кватрплата.** Заробкі ж засталіся ранейшыя. Сёньня ва Ўкраіне, дзе рэальныя выдаткі камунальшчыкаў на абслугоўваньне кватэр блізкія да беларускіх, грамадзяне афіцыйна аплачваюць 80% сабекошту. Але гэта толькі на паперы — палова насельніцтва краіны або плаціць ад месяца ў месяц менш, чым трэба, або ня плаціць увогуле.

### РАСЕЯ

**У Расеі рэформа пачалася ў 1992 г.** На той час насельніцтва сплачвала ўсяго 2% рэальных выдаткаў, а ў 1996 г. — ужо болей за 50%. Пасьля з-за невысокіх заробкаў падвышэньне тарыфаў амаль прыпынілася. Паводле новага пляну рэформаў, што быў зацьверджаны сёлета ў траўні, з 2002 г. 100% камунальных выдаткаў мусяць аплачваць заможныя расейцы, а ў 2003 г. да поўнай кампэнсацыі камунальных паслугаў пяройдзе і "сярэдняя кляса". "Піянэрам" тут стаўся мэр Лужкоў, які прапанаваў багатым маскоўцам добраахвотна плаціць за кватэры па сабекошце ўжо зь сёлетняга лістапада.

**С.І.**

## ва ўрадзе і каля ўраду

### Аграрнікі тарпэдавалі бюджэт

**Палата прадстаўнікоў пакуль не ўхваліла дзяржаўнага бюджэту на наступны год.** Прыняцьце заблякавалі дэпутаты-аграрнікі, якія патрабуюць павялічыць падатак у рэспубліканскі фонд падтрымкі вытворцаў сельскагападарчае прадукцыі з 1% да 1,5%. Гэтыя паўадсотка дадуць 150 млрд. рублёў. Старшыня аграрнае камісіі "палаты" Аляксандар Азарчанкаў заявіў, што, калі адлічэньні ў сельгасфонд ня будуць павялічаны, ён сыдзе з пасады. У часе пайменнага галасаваньня 62 дэпутаты выказаліся за павелічэньне падатку. "Дзякуючы" яму, бюджэт робіцца незбалянсаваным, а падатковая нагрузка на прамысловасьць павялічваецца на 2%. Міністар фінансаў М.Корбут, міністар падаткаў і збораў К.Сумар, а таксама сьпікер В.Папоў настойваюць на перагляддзе гэтага пункту.

Адначасова дэпутаты прагаласавалі супраць уключэньня ў расходную частку бюджэту на 2002 г. фондаў на будаўніцтва мэмарыялу ахвярам сталінскага рэжыму ў Курапатах. З 81 дэпутата, што прысутнічалі на паседжаньні, толькі 15 выказаліся за прапанову У.Навасяда. Сьпікер В.Папоў дадаў, што будаваць помнік у Курапатах мо і трэба, але "не за бюджэтныя грошыкі".

### Новыя прызначэньні: незаменных няма

**На мінулым тыдні А.Лукашэнка зрабіў шэраг новых прызначэньняў.** Міністрам энэргетыкі стаў дырэктар "Гарызонту" В.Сямашка Кіраўніком Генштабу зноў стаў С.Гурулёў, У краіне працягвае ўмацоўвацца сыстэма ўзаемазаменнай бюракратыі. Новыя прызначэньні – стаўленікі бюракратычных, а не рэгіянальных ці родавых кланаў.

### Закрываюць беларускія гандлёвыя дамы

**У Расеі закрываюць беларускія гандлёвыя дамы, створаныя падчас колішніх паездак Лукашэнкі па расейскіх рэгіёнах.** Канцэрн "Белрэсурсы" абвясьціў пра ліквідацыю 11-ці такіх дамоў — сярод іх у Растове, Кастраме, Валгаградзе, Пецярбургу, Смаленску. З 20 дамоў пасьля цяперашняга рашэньня "Белрэсурсаў" застанецца ў Расеі толькі 9. Гэтыя дамы выконваюць задачы прасоўваньня беларускіх тавараў на ўсходнім рынку.

**М.Б.**



# ГЭС ля Каложы

**Нёман беларусы дзеляць зь літоўцамі. У нас практычна палова ракі — 459 км з 937-мі. Пад Коўняй, дзе 420 тысяч насельніцтва, больш за 40 гадоў існуе ГЭС. Зьбіраліся ў хрушчоўскія часы збудаваць электрастанцыю і ў Горадні, але так і не сабраліся — захапіліся "ўтаймаваньнем" сібірскіх ды каўкаскіх рэкаў. Цяпер ідэя будаўніцтва ГЭС паблізу Горадні зноў актыўна абмяркоўваецца. Па словах энэргетыкаў, вобласьць найменш забясьпечаная электрычнасьцю.**

Любое няшкоднае будаўніцтва можна сёньня вітаць. Пагатоў калі хочуць выкарыстаць энэргію вады, якая ніяк не выкарыстоўваецца. Прывабна выглядаюць і іншыя моманты. Пачалося будаўніцтва аб'езной дарогі ад памежнага пераходу Брузгі, каб транзытны транспарт абыходзіў Горадню. Дзеля гэтага трэ будзе збудаваць мост цераз Нёман. Прыблізна ў тым месцы, дзе плянуецца будаўніцтва ГЭС. Някепска было б пусьціць машыны па плаціне. Жыхарам гораду абяцаюць зону адпачынку на вадасховішчы, да якога будзе 10 км ад Горадні. Абяцаюць шмат рыбы, базу водных відаў спорту. А таксама 50 км суднаходнай ракі ад плаціны да Мастоў. Відаць, турысты не адмовіліся б ад падарожжа на цеплаходзе ўздоўж маляўнічых нёманскіх берагоў. Дый самі гарадзенцы ня маюць асабліва дзе адпачываць.

У Коўні, будуючы ГЭС, зэканомілі на ўсім — нават шлюзу для праходу рыбы не зрабілі. "У нас будзе і суднаходны шлюз, і польдэры, і рыбныя гаспадаркі", — абяцалі ў "Гродняэнэрга". Але пасьля грамадзкага абмеркаваньня і публікацыяў у прэсе высьветлілася, што ў Беларусі няма спэцыялістаў па будаўніцтве ГЭС. Таму праект быў прыблізны, як і кошт будаўніцтва — 65 млн. даляраў. Нашы зьвярталіся па параду да маскоўцаў. Экспэртыза каштавала 2 тыс. даляраў. Расейцы сказалі, што ў 65 млн. можна ўкласьціся, калі не будаваць ні шлюзаў, ні польдэраў ды не займацца рыбнай гаспадаркай.

Канчатковае праектаваньне зойме 2 гады. Будаўніцтва можа расьцягнуцца на 4—5 год. Магутнасьць станцыі будзе адносна невялікая: у максымальным рэжыме (падчас веснавой паводкі) — 18 мэгават. Яна забясьпечвала б ад траціны да паловы патрэбаў "Азоту".

**Сяргей Краўцоў, Горадня**

### Малы прырост ВУП і высокая інфляцыя

Сярод краінаў СНД Беларусь мае самыя нізкія тэмпы росту валавога ўнутранага прадукту і самую высокую інфляцыю. У студзені—кастрычніку рост ВУП у Беларусі склаў 3% да адпаведнага леташняга перыяду. Між тым, напрыклад, у Грузіі аб'ём валавога ўнутранага прадукту павялічыўся на 4,8%, у Расеі — на 5,7, у Кіргізіі — на 6, у Азэрбайджане — на 9,4, у Арменіі — на 9,6, у Таджыкістане — на 10,9. Інфляцыя ў студзені—кастрычніку 2001 г. у дачыненьні да адпаведнага пэрыяду 2000 г. склала ў Беларусі 65,3%, у Таджыкістане — 42,7, у Малдове — 10, у Казахстане — 8,7, у Кіргізіі — 7,6, у Грузіі — 5, у Азербайджане — 1,6. Ніжэйшыя паказчыкі Беларусі зьвязаныя з тым, што пэрыяд эканамічнага росту пачаўся ў нас раней за іншыя краіны СНД. Такія тэмпы росту назіраліся ў нас 4—5 гадоў таму.

### На Гарадзеншчыне — аўтамабільны бум

**З пачатку году абласная аўтаінспэкцыя зарэгістравала 40 тысяч легкавых аўтамашын, набытых прыватнымі асобамі, што на чвэрць больш, чым летась.** У вобласьці 270 тысячаў прыватных аўто, а ўсяго ў Беларусі іх 2,7 млн.

## навіны гаспадаркі

### Пабагацелі ўдвая

**У лістападзе беларусы захоўвалі на банкаўскіх рахунках 301 млн. даляраў ЗША** — удвая болей, чым на пачатку году. Амаль удвая пабольшала сёлета і ашчаджэньняў у нацыянальнай валюце. Што праўда, сумы цалкам несуадносныя: мінулым месяцам на рахунках грамадзянаў было толькі 299 млрд. беларускіх рублёў.

**Канцэрн "Белэнэрга" запатрабаваў, каб прадпрыемствы разьлічваліся за электрычнасьць цалкам,** бо інакш спыніцца яе імпарт з Расеі. Цяпер электраэнэргіі спажыўцам сталі даваць столькі, за колькі тыя заплацілі. А прыкладна 60% калгасаў і саўгасаў, што плаціць ужо ня ў стане, могуць застацца безь сьвятла ўжо ў найбліжэйшыя тыдні.

**Сёлета калгасы і саўгасы набылі 3096 трактароў, адначасова сьпісаўшы на мэталалом 8145 старых.** Гаспадаркам трэба мяняць больш за 70% усёй тэхнікі. На гэта трэба 56 трлн. рублёў, тады як сёлета калгасы і саўгасы прадалі мяса, малака, збожжа і бульбы ўсяго на 1,3 трлн.

**Урад адмаўляецца прадаваць расейцам ды чэхам завод "Белкамунмаш" — адзінае ў Беларусі прадпрыемства, дзе робяць тралейбусы і трамваі.** Разам з тым, на "Белкамунмашы" напраўду нялёгкія часы — няма збыту прадукцыі. Прыкладам, у 2001 г. буйныя гарады краіны купілі ў заводу ўсяго 50 новых тралейбусаў замест 174 запланаваных.

**С.І.**

Зьміцер Бартосік

# 4000 км па ідэальнай БССР



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

*У Сьветлагорску мы з Арловым выступілі ў ліцэі. І гэта дало мясцовым уладам зачэпку, каб зачыніць яго. Што лепш? Калі б мы ўсё ж выступілі ў тым ліцэі? Ці захаваны ліцэй, у якім нам нельга выступаць?*

Перад выбарамі і адразу пасьля іх мы з Уладзімерам Арловым аб'езьдзілі з выступамі і канцэртамі ўсю Беларусь.

Як здорава, што аднойчы я авалодаў беларускай граматай ды вывучыў колькі гітарных акордаў. Дзякуючы гэтым дзьвюм рэчам ты пачуваешся сваім чалавекам на сваёй зямлі. Варта толькі завесьці рухавік, вырвацца за менскую кальцавую. У любым кірунку. Напрыклад, на Маладэчна.

Мяне заўжды зьдзіўляла Маладэчна. Пасьля менскіх вуліц ваўпшасавых ды мясьніковых маладэчанскія шыльды ўзьдзейнічаюць на псыхіку значна больш за сталічныя графіці. Вялікі Гасьцінец, Віленская, Лібава-Роменская. Чаму менавіта Маладэчну ўдалося ў той невялічкі пэрыяд незалежнасьці пад "Пагоняй" зрабіць тое, пра што менчукі мараць і сёньня? "Прабачце, але сабралася так мала людзей", — перапрашалі нас арганізатары. Лета, сьпёка, на плошчы віруе чэскі люна-парк. А ў залі тэхнікуму — пара сотняў маладзёнаў. Можа, для Маладэчна гэта й мала.

Вельмі зьдзівіла Вялейка. Там пад нашую "крамольную" імпрэзу ўлады далі гарадзкі Палац культуры. Добрае сьвятло на сцэне, добры гук у мікрафонах, ізноў жа амаль поўная заля моладзі. Якую ня трэба агітаваць за беларушчыну. Пасьля такіх выступаў пра што зусім ня хочацца размаўляць, дык гэта пра лёс мовы. Які можа быць лёс у мовы, якую паўсюль разумеюць?

Хаця ў Шаркоўшчыне нас не разумелі. "Як праехаць да першай школы?" Дзьве дзяўчынкі старэйшага школьнага веку глядзяць на цябе, нібы на іншаплянэтніка. "Дзе тут у вас пошта?" — і цябе ўжо не разумее саракагадовы мужык. — "Нету ў нас такой". Быццам заехаў у які расейскі Таржок. Але ў Таржку, няйначай, зразумелі б хутчэй. "Дзеці, — ласкава загаварыў Арлоў, — а дзе ў вас Паўночны завулак?" — "А па-рускі гавары", — адказаў самы гаваркі дзіцёнак. — "А тут што, Расея?" — завёўся Ўладзімер. — "Тут Беларусь", — прагучаў па-піянэрску горды адказ. — "Дык чаму ж вы, засранцы, па-беларуску не разумееце? Гнаць вас трэба адсюль". Я націснуў пэдаль газу, шчыра баючыся, што пісьменьнік пагоніць вісусаў зь Беларусі зараз жа.

Але ня варта адчайвацца нідзе. Нават з такімі складанымі словамі, як "першы", "паўночны" й "пошта", нас урэшце зразумелі і нам дапамаглі.

Кідаецца ў вочы, якой выразнай за апошнія гады стала мяжа паміж нашымі Захадам і Ўсходам. Усход быццам вымірае. За Магілёвам можна за паўсотні кілямэтраў не сустрэць ніводнай машыны.

Пра ўсходнебеларускі сэрвіс — асобна. Унівэрсытэцкі горад Горкі, другая гадзіна ночы, гатэль "Проня" на цэнтральным пляцы. Нават не гатэль, а матэль, як напісана велічэзнымі літарамі па-над шасьціпавярховым "хмарачосам". Напэўна, нейкаму мясцоваму начальніку вельмі спадабалася слова "матэль", а сэнс яму растлумачыць не наважыліся. Бо ніякага пад'езду для транспарту ў гэтым матэлі няма. А найбліжэйшая стаянка, як патлумачыла кансьержка, — каля рэстарану "Парнас". Аднак на гэтым радасьць спазнаньня жыцьця не сканчаецца. Толькі ў гатэлі-матэлі "Проня" я бачыў такія пакоі. Справа не ў дабітай мэблі і не ў завараных на вякі трубах колішняга душу. У пакоі адсутнічаюць вокны. Пад стольлю ёсьць толькі вузенькая, сантымэтраў трыццаць, фортка-байніца. Архітэктар, відаць, быў аўганец. Звонку пры сьвятле дня "Проня" выглядае яшчэ больш пагрозьліва.

У матэльнай кавярні кухарка сказала нам, што паесьці мы ня можам, бо "афіцыянтка кудысьці пайшла". "Але ж мы госьці вашага гораду, і мы можам падаць сабе ежу самі". Ці то паварыху расчуліла родная мова, ці тое, што мы госьці гораду, але яна прынесла ежу. Што праўда, бяз хлеба, бо ключ ад хлебніцы афіцыянтка чамусьці носіць з сабою. Арлоў кажа, што спыняўся ў гэтай "Проні" яшчэ пяць гадоў таму. Тады тут працаваў душ, а ў кавярні нават было мэню. Кепска ня тое, што Беларусь дзічэе, а тое, што да гэтага можна прызвычаіцца. Як да нормы.

Іншае паветра на Браслаўшчыне. Памяшканьне для сустрэчы — утульную ўрачыстую залю насупраць касьцёлу — нам далі каталікі. Падчас выступу паступова расло фантастычнае адчуваньне: а мо той panылай савецкай рэспублікі, у якой даводзіцца жыць, зусім не існуе? Людзей набралася больш за сотню. Усё тыя маладыя прыгожыя твары, сярод якіх недарэчна гучыць слова "прапаганда". Хутчэй — раскоша чалавечых дачыненьняў, як сказаў Арлоў. Гэтую раскошу я шчэ не аднойчы згадаю ў хвіліны менскае хандры.

Потым дырэктар мясцовага музэю запрасіў нас у госьці. Пакуль у ягоным доме накрывалі стол, апеку над намі ўзяла прыгожая жонка галоўнага егера "Браслаўскіх азёраў". Спрытна кіруючы маленькім чырвоным пэжо, яна везла нас глядзець зьвярагадавальнік, распавядаючы пра тое, як яе сужэнец не пераходзіў на "обшчэдаступный язык" нават перад вядомым сьцягазьнішчальнікам Іванам Ціцянковым — калі той панаваў на Браслаўшчыне. Можна пры любой уладзе заставацца беларускім чалавекам, самім сабою. Для гэтага ня трэба гераізму. Адно крыху павагі да сябе й да тых, хто цябе нарадзіў.

Пасьля была шыкоўная вячэра. Адзіным небеларускамоўным чалавекам у нашай кампаніі быў нямецкі хлопец Зыгфрыд, бойфрэнд дачкі гаспадароў. Гэта надавала кампаніі асаблівы шарм і было выдатнай мажлівасьцю выпіць за спрадвечнае сяброўства беларускага й нямецкага народаў.

"Вось што ты можаш сказаць пра сваё месцазнаходжаньне, гледзячы на гэтую вітрыну? — запытаў у мяне Ўладзімер каля мазырскага газэтнага шапіка. — Ну? Расея?" "*Хоть похоже на Россию, только всё же не Россия*", — адказаў я словамі Гарадніцкага. — Бо ў Расеі не прадаецца газэта "Навінкі", дый "Звязда" таксама. Гэта хутчэй БССР". Толькі вельмі багатая БССР. Хіба сьнілася той БССР такая колькасьць кілбасаў і такая цана на гарэлку? Можна нават сказаць, што ў нас ідэальная БССР. Шпацыруючы па Мазыры, мы ўбачылі помнік кучараваму чалавеку з бакенбардамі й натхнёна ўзьнятаю рукою. "Гатовы паспрачацца, што гэта Пушкін". — "Ну а хто ж ня ведае, што ў Мазыры нарадзіўся й жыў Пушкін", — ня стаў спрачацца калега. Але галоўная каштоўнасьць помніка была ня ў выкручанай руцэ, а ў фанэрным пастамэнце. Напэўна, на граніт не хапіла грошай, і пастамэнт абабілі фанэраю, пафарбаванай у гідкі карычневы колер. Відовішча фантастычнае. Гледзячы на жалезнага Пушкіна на фанэры, мы вырашылі, як нашы прыйдуць да ўлады, паставіць сюды Дубаўца. Гэтую думку вырашылі адзначыць у кафэ "*Встреча*". "У вас ёсьць кава?" — задаў я цётцы сакральнае беларускае пытаньне. "Кофе есьць, а кавы нету", — адказала ганарлівая мазыранка. І дадала, што яна "трыццаць лет жывёт у Мозыре, сама пріехала із Расії, і нікагда не слышала ні пра какую каву". — "З Чачні ўцяклі?" — пацікавіўся я. Хоць, зрэшты, рацыі ня меў. Калі за трыццаць гадоў цётцы мясцовыя людзі не растлумачылі сэнсу слова "кава", якое маю права я, далёкі госьць, асуджаць яе? Затое мы ўбачылі ў Мазыры беларускамоўную шыльду. Ды яшчэ якую! "Клюб "Летуценьнік". Сапраўды, чым яшчэ займацца беларусу ў БССР, як не летуценіць. Але ня гэта ўразіла. Калі з-за пахілых хацінаў расхрыстанай і раздаўбанай вуліцы Гогаля паволі выплывае барочны фасад касьцёлу цыстэрцыянак, любы падарожнік зразумее, што ён сапраўды не ў Расеі. А ўвечары нас у гэтым пераканалі трыста студэнтаў Мазырскага ўнівэрсытэту, чый прыём быў найлепшым доказам таго, што жыцьць нашаму бээсэсэру засталося вельмі нядоўга.

Скончалася нашая гастроль у Бярозе. Гарадку, чыя адзіная адметнасьць — кляштар картэзіянаў — паволі расьцягваецца суседзямі-дачнікамі "на цэглу". "Якія ў нас людцы. Руплівыя, гаспадарлівыя, — зазначыў Арлоў, — нічога ў іх не прападзе". У астатнім Бяроза такая ж "нармальная", "чалавечаская", і "памятнік Леніну есьць". Нягледзячы на кепскае надвор'е, на сустрэчу ў школе сабралася даволі шмат дзяцей. Дзяцей разумных, беларускамоўных, цікаўных. Як нам патлумачылі настаўнікі, на сустрэчы ў асноўным тыя, хто пайшоў калісьці ў беларускамоўныя клясы, якіх у Бярозе ўжо не набіраюць.

Начавалі ў бярозаўскім гатэлі — двухпавярховым помніку архітэктуры сярэдзіны мінулага стагодзьдзя. Мэбля, фіранкі й адзіны туалет з умывальнікам. Цётка-ключніца паведаміла, што нумароў на аднаго чалавека тут ніколі не было, але затое цёпла. "Усе нумары для закаханых", — падсумаваў я. Адсутнасьць тэлевізара ў такім антуражы не бянтэжыць. Наадварот, ён толькі б замінаў пранікацца атмасфэраю прамінулых сталінскіх часін. Па вячэру выбраліся ў рэстарацыю, дзе, зразумела, не было вольных столікаў. Нашы людзі могуць ня толькі гераічна працаваць, але ня менш гераічна адпачываць. Прычым невядома, што ў іх лепш атрымліваецца. Як толькі ўбачу чырванатварых потных тоўстых нашых цётак у іхным рытуальным рэстаранным танцы, дык адразу цягне мяне пагаварыць пра спадчыну ВКЛ, спрадвечную беларускую эўрапейскасьць ды фантастычную нашую будучыню. Цывілізацыю ў Бярозе рэпрэзэнтуе начная крама, дзе мы купілі віна й чэбурэкаў. І падчас выпрабаваньня сваіх страўнікаў гэтымі экстрэмальнымі чэбурэкамі, разагрэтымі на гатэльнай батарэі, я казаў Уладзімеру: "Уяві, пройдзе яшчэ гадоў сто. І ў гэтым самым нумары, дзе, можа быць, зьявіцца тэлевізар, будуць сядзець два руплівыя родная мовы, што прыехалі са сталіцы на творчую сустрэчу зь дзеткамі. І будуць марыць пра яшчэ лепшую Беларусь". — "Павінен зазначыць, — адгукнуўся Арлоў, — што гэта вельмі аптымістычная карцінка. Прынамсі, праз сто гадоў нас будзе каму разумець".

І нарэшце, самае прыкрае. У Сьветлагорску мы павінны былі выступаць у залі гарадзкога ДК, але ў апошні момант атрымалі адмову. Арганізацыю сустрэчы ўзяў на сябе Сьветлагорскі гуманітарны ліцэй. І гэта дало мясцовым уладам зачэпку, каб зачыніць яго. Застанецца на новы тэрмін Лукашэнка, не прападзе й апазыцыя, а вось што будзе са Сьветлагорскім ліцэем? І што лепш? Калі б мы ўсё ж выступілі ў тым ліцэі? Ці захаваны ліцэй, у якім нам нельга выступаць?

Вядома ж, немагчыма распавесьці пра ўсе ўражаньні ад трох тысячаў кілямэтраў па Беларусі. Пра Ветку, дзе ў музэі старавераў пасьля рамонту чамусьці прыбралі шыкоўныя парэнчы. Пра рэчыцкага беларуса грузінскага паходжаньня Зураба й ягоныя неверагодныя тосты...

Вынікам вандровак сталася ўпэўненасьць, што Беларусь мае цудоўныя пэрспэктывы. Неістотна, што тут многае трэба пачынаць з нуля. Галоўнае, што ёсьць з кім.

# Трава на касьцях

Імя гэтага чалавека ўжо вядома чытачам нашай газэты па некалькіх паэтычных публікацыях. Але нават уявіць цяжка, што яму давялося перажыць у палітычных лягерах Іркуцку і Магадану. А пачалося ўсё ў вёсцы Маркавічы Наваградзкага раёну ў лютым 1949 г.

Маладыя людзі Бухнацэвіч і Руды на вячорках выпілі чакушку гарэлкі і разышліся кожны да сваёй дзяўчыны. А раніцай стала вядома, што ў вёсцы адбылося забойства — забілі настаўніка мясцовай школы Буйноўскага і падлетка Хлапкова, які жыў разам з настаўнікам на кватэры пры школе. Хату-школу спалілі. Хутка па падазрэньні ў злачынстве сьледчыя выйшлі на Эдварда Рудага. Спачатку на допытах ён браў два забойствы і падпал на сябе. Але ў сьледзтва былі падставы меркаваць, што гэта справа рук не аднаго чалавека. Тым больш, што ў Заходняй Беларусі ў той час поўным ходам ішла "барацьба з бандытызмам". Таму пасьля некалькіх дзён катаваньняў Руды даў паказаньні на Бухнацэвіча: маўляў, яны разам забівалі і потым падпалілі школу. Сьледчых гэта задаволіла. А астатняе ўжо было справай тэхнікі. Бухнацэвіча арыштавалі й пачалі выбіваць прызнаньне.

Але паслухаем яго самога: "У Казлоўшчыне мяне патрымалі чатыры дні, а потым выклікалі на допыт і адразу: "Прызнавайся, бандыт, як забіваў?" — "Каго забіваў, калі? Я нікога не забіваў!" Але яны стаялі на сваім: білі мяне рукамі, нагамі, ірвалі на галаве валасы. Я ўжо думаў, што ня вытрываю, падпішу прызнаньне. Ды сьледчы настойваў, каб я адразу расказаў, як усё было, а потым, маўляў, падпішаш. А што расказваць, калі я ні сном ні духам?.. А тут яшчэ канвойны (добры, відаць, быў чалавек), які вадзіў мяне з камэры на допыты, параіў, каб не прызнаваўся, калі не вінаваты, а цярпеў — да сьмерці не заб'юць. І я цярпеў. Тады яны, каб пацьвердзіць паказаньні Рудага, узялі канфіскаваны ў мяне пры арышце штык-нож, які ў тую ноч быў пры мне, нанесьлі на яго кроў забітага і прыклеілі валасы. Гэтыя "рэчдокі" адправілі ў Баранавічы на экспэртызу. А сьледам і мяне туды — у контравыведку. Там білі паўтара месяца і на мароз ставілі пад вышку, каб падпісаў прызнаньне. Я ўсё вытрымаў, не падпісаў. 18 красавіка 1949 г. адбыўся паказальны суд, на якім мне далі 25 гадоў зьняволеньня як забойцу. Пасля суду пачаліся мае "падарожжы". Спачатку павезьлі ў Горадню, з Горадні — на Воршу, а з Воршы — на Маскву. У Маскве затрымалі ў Краснапрэсьненскім аддзеле ўнутраных справаў. Спачатку кінулі ў камэру да блатных, потым перасялілі да палітычных. А адтуль ужо — па этапе...".

## ЛЯГЕР "ОЗЕРЛАГ"

Закрыты лягер асобага рэжыму для палітзьняволеных *"Озерлаг"* у Іркуцкай вобласьці стаў першым месцам, дзе Станіслаў Бухнацэвіч адбываў свой тэрмін. Сядзелі там



Станіслаў Бухнацэвіч

савецкія палітычныя, палонныя японскія афіцэры, нямецкія вайскоўцы, а таксама вызваленыя пасьля перамогі савецкія ваеннапалонныя. Выжыць там было вельмі цяжка. Асноўная праца — на лесапавале. Кармілі дрэнна, а дзённыя нормы нарыхтоўкі драўніны былі непамерна высокія. Каб пазьбегнуць зьнясіленьня, а потым і немінучай сьмерці, многія секлі сабе рукі і ногі, траплялі ў больніцу, а пасля — на лягчэйшую працу ў брыгаду "дахадзягаў". Дайшоў да гэтага і Бухнацэвіч. Калі адчуў, што слабее, пасёк сабе нагу. Пасьля больніцы яго накіравалі ў брыгаду па падборы гальля і сукоў. Майстрам у гэтай брыгадзе працавала вольнанаёмная жанчына Надзея. На свой страх і рызыку яна пачала ўпотай падкормліваць маладога Бухнацэвіча. Праз нейкі месяц чалавек акрыяў. Гэта не засталося незаўважаным. І калі брыгаду правярала лягерная камісія, Бухнацэвіча зноў накіравалі на лесапавал. І ён другі раз "дайшоў да ручкі". Ды так, што вырашыў далей не пакутаваць.

"Я пайшоў проста на вартавога, — расказвае Станіслаў Бухнацэвіч. — А да забароненай зоны нельга было падыходзіць бліжэй за дзесяць мэтраў. Я мінуў "забаронку", а ён не страляе, а крычыць мне: "Куды ж ты прэшся, дурань, я магу цябе зараз застрэліць!" І я яго папрасіў: "Ты забі мяне, калі ласка!" А калі выйшаў на агнявую пазыцыю, чамусьці захацелася, каб застрэліў ён мяне ў патыліцу. Павярнуўся я, ён ляпнуў затворам і... не страляе. Я зноў да яго: "Чаго ж ты марудзіш! Страляй хутчэй, паедзеш у адпачынак". (За забітага пры спробе ўцёкаў зэка канваіраў адпускалі на пабыўку дамоў.) На што вартавы загадаў мне павярнуцца да яго тварам, папярэдзіў сваіх суседзяў на вышках справа і зьлева, каб не стралялі, і паклікаў да сябе. Спытаў, чаму я хачу памерці. Я патлумачыў, што са мной адбылося і прызнаўся, што больш проста фізычна не вытрымліваю ў гэтым лягеры. Ахоўнік выслухаў мяне, пачаставаў курывам, а пасьля дастаў з кішэні ліст-трохкутнік і зачытаў. У лісьце яго маці пісала, каб хутчэй прыяжджаў дамоў, бо ў вёсцы і есьці няма чаго, і хата зусім збылася. А калі скончыў чытаць, то сказаў, што трэба жыць, і загадаў ісьці да сябе ў барак і паклікаць на яго пост нашага брыгадзіра. А брыгадзірам у нас там быў былы афіцэр-франтавік, які трапіў да немцаў у палон, Іван Іванавіч. Я перадаў яму загад ахоўніка. На пытаньне: "Чаго ён выклікае?" — адказаў, што ня ведаю. А сам паціху пайшоў за ім. Падумаў, што ахоўнік раскажа, што я хацеў зрабіць, а брыгадзір потым на мне адыграецца. Падышоў Іван Іванавіч да "забаронкі" і пытае:

— Выклікаў?

— Выклікаў. Ёсьць у цябе такі Бухнацэвіч?

— Ну ёсьць.

— Ты бачыў, які ён?

— Бачыў. А што, я яму паёк свой аддам?

— Рабі што хочаш, але каб за 10 дзён паставіў хлопца на ногі. У тайзе "працэнтаў" многа. Знойдзеш і на яго. Інакш, даю слова франтавіка, я цябе прыстрэлю...

Знайшоў-такі на мяне брыгадзір "працэнты" — лягчэйшую працу і большы паёк. І так я другі раз аджыў. Але нядоўга ўжо мне засталася там сядзець. З іркуцкіх лягераў набіралі 37 тысяч зэкаў для работ у рудніках Магадану. Трапіў у іх лік і я...".

*"Чатыры дні мяне білі ў пастарунку ў Казлоўшчыне, потым паўтара месяца ў контравыведцы ў Баранавічах, але прызнаньня я так і не падпісаў", — расказвае Станіслаў Бухнацэвіч, які адсядзеў у сталінскім ГУЛАГу 15 гадоў, 2 месяцы і 8 дзён.*



## МАГАДАН. РУДНІК МАТРОСАВА

"Калі на грузавіках нас прывезьлі да прахадной рудніка імя Матросава, — працягвае свой расказ Станіслаў Бухнацэвіч, — то ў лягер адразу не пусьцілі, а вынесьлі вялікія мяшкі, раздалі іх нам і павялі пад канвоем кудысьці ўбок. Прывялі да месца, дзе на вялікай тэрыторыі ляжалі проста гурбамі чалавечыя косьці. А на касьцях парасла трава. І нам загадалі гэтай травой набіваць мяшкі-матрацы. Як паглядзеў я на гэта — валасы дыбам падняліся. І не нарваў травы. А сказалі, хто не запоўніць матрац, будуць біць. І ўсё роўна нарвеш гэтай травы. Каб прайсьці ў зону; я папрасіў у таварыша палову травы зь ягонага мяшка, а там аддаў яму гэтае "начыньне" назад. Так і праспаў на голых нарах да самага вызваленьня.

І пачалося ў мяне новае жыцьцё. Замест тайгі і лесапавалу — руднік, на якім хутка нажыў сылікоз лёгкіх. Калі ўжо пачаў харкаць крывёю, адмовіўся спускацца ў шахту. За што адсядзеў 63 дні карцэру, але атрымаў магчымасьць на нейкі час трапіць у больніцу і прайсьці рэнтген. Але каб усё гэта апісаць — і кніжкі было б мала. А расказаць зараз я хачу пра іншае.

У 1953 г. на Магадан і на наш руднік прыйшоў новы этап. Усе ў лягеры кінуліся шукаць сярод навічкоў землякоў, знаёмых. Сталі распытваць, хто адкуль, зь якога часу ў няволі?.. Гляджу я, а ў адной зь пяцёрак ідзе... мой Руды. Падышоў я да яго з такім нядобрым пачуцьцём і кажу: "Ну што, вось і сустрэліся! Цяпер ты, магчыма, па-іншаму загаворыш?" А ён мне: "Прабачце, але я вас ня ведаю...". Вось як, значыць. Разам у адной вёсцы расьлі. Ён на нейкія два гады быў за мяне старэйшы. Але прайшоў час, і я яго разгаварыў. І вось што ён расказаў пра тую ноч забойства: "Калі мы тады вечарам разышліся, я зайшоў да двух сваіх таварышаў. Аб усім мы дамовіліся напярэдадні. Мы адрэзалі ў сякерах тапарышчы, прыхапілі яшчэ на ўсякі выпадак пісталет "ТТ" і пайшлі ў школу да Буйноўскага. Ён сядзеў за сталом і правяраў сшыткі. Непаўналетні Хлапкоў (сірата, які жыў на школьнай кватэры з настаўнікам — **М.К.**) у гэты час спаў. Па камандзе аднаго з нас мы стукнулі Буйноўскага сякерай па галаве. Ён яшчэ пасьпеў падхапіцца з крэсла, падняў рукі і рухнуў на падлогу. Ад шуму прачнуўся Хлапкоў і пачаў крычаць. Такім жа чынам мы забілі і яго. Потым знайшлі пашпарт Буйноўскага, забралі некаторыя рэчы. Перад адыходам разьбілі газавую лямпу і падпалілі хату... Назаўтра раніцай, калі я да цябе заходзіў, я хацеў падзяліцца нарабаваным і спытаць парады, куды бегчы? Але ты сказаў, што таго, хто забіў настаўніка і сірату, ты парэзаў бы на кавалкі і пасыпаў сольлю... Таму нічога я тады табе не сказаў..."

Пасьля яго расказу я стаў прасіць Рудага, каб ён зрабіў прызнаньне "опэру", назваў сваіх сапраўдных хаўрусьнікаў. Але зрабіць гэта Руды катэгарычна адмаўляўся. Тады я зьвярнуўся па дапамогу да двух блатных, усходнікаў, Толіка Кірпічова і Косьці Камарова, якія "трымалі" лягер. Тыя, калі даведаліся ў чым справа, адразу — у расход гада. Калі, маўляў, сам ня можаш, то яны зробяць так, што з рудніка ён ня вернецца. І стаў я прасіць ужо іх: "Хлопцы, мне не жыцьцё яго патрэбна, мне воля патрэбна...". Карацей, паабяцалі яны мне выбіць з Рудага прозьвішчы тых дваіх. І аднойчы вечарам барак, дзе жыў Руды, зачынілі зь сярэдзіны, самога яго пасадзілі на ўслончык, і пачаўся допыт. Калі яму далі слова, мой зямляк сказаў, што я ні ў чым не вінаваты, але прозьвішчы двух сваіх падручных ён не назаве, нават калі б яго забівалі. Бо зь імі ў яго злачынстваў было ў 10 разоў больш, чым тое начное забойства... І пачалі Рудага біць. Ён упаў з услончыка, але маўчаў. А ў гэты час у барак вяртаўся адзін з жыхароў. Патузаў за дзьверы — замкнёныя. Зазірнуў у акно, а там чалавека забіваюць. Ён кінуўся да ахоўнікаў. Тыя высадзілі дзьверы і ўварваліся з аўтаматамі ў барак. "У чым справа, — пытаюцца, — прайграўся, ці што? За што б'яце?" Ім растлумачылі і запатрабавалі, каб выклікалі опэрупаўнаважанага. Прыйшоў "опэр", капітан Скрэбнеў такі. Выслухаўшы, у чым справа, сказаў, што павінен забраць Рудага ў карцэр і завесьці на яго новую справу...

Праходзіць дзень, два, тры — мяне не выклікаюць. Хлопцы параілі самому пайсьці да Скрэбнева "на прыём". Прыйшоў я да "опэра". Ён нават ня даў мне адрапартавацца па форме, а адразу з парога: "А, сынку, гэта ты! Праходзь, сядай". Я вельмі зьдзівіўся: "Як гэта вы мяне, палітзэка, сынком назвалі?!" А ён працягвае: "Нічога, сядай. Я ведаю, што ты нікога не забіваў і ні ў чым не вінаваты, — і далей, — бачыш, якое ў мяне званьне?" Тут я ўжо з пытаньнем да яго: "А пры чым тут ваша званьне?" Але ён настаяў, каб я назваў яго вайсковы чын, і далей працягнуў гаворку так: "Цяпер я капітан. А быў калісьці маёрам і служыў у Нямеччыне. Ня буду казаць табе, за што я праштрафіўся, але мяне разжалавалі да капітана і паслалі сюды да вас опэрупаўнаважаным. Цябе колькі білі ў контравыведцы? Паўтара месяца. І прызналі вінаватым. Я мог бы выціснуць з Рудага імёны тых дваіх як раз плюнуць. Але я рабіць гэтага ня буду. Бо што тады атрымліваецца: уся праца контравыведнікаў — ліпа, кату пад хвост?! Як на мяне, штрафніка, паглядзяць пасьля гэтага там, у Маскве?.. Я сам пад каўпаком, Бухнацэвіч, мне жыць хочацца..."

На разьвітаньне я заявіў гэтаму капітану Скрэбневу, што буду пісаць скаргі ў Маскву. На што "опэр" адказаў: "Далей маёй скрыні і Магадану твае скаргі нікуды ня дойдуць..." На тым і разышліся. І напісаў я 65 лістоў са скаргамі. Адзін дайшоў да адрасата. Я перадаў яго вольнаму, які ад'яжджаў на мацярык. І прыйшоў мне з Масквы адказ: "Асуджаны правільна. Адбывайце тэрмін"... Маладосьць, жыцьцё — усё мне тады здавалася страчаным..."

У 1964 г. Мікіта Хрушчоў выдаў указ, згодна зь якім асобы, асуджаныя на 25 гадоў, пры добрых паводзінах вызваляліся з адбыцьцём 15 гадоў пакараньня. Але вызваляліся праз суд. Калі Станіслаў Бухнацэвіч адсядзеў 14 гадоў, яго павезьлі на суд у найбліжэйшы горад Казнас і першае пытаньне ў судзе было, ці прызнае ён забойства? Бухнацэвіч чужога забойства не прызнаў, а значыць — "ня выправіўся". І быў адпраўлены назад у лягер. Прасядзеў яшчэ год, два месяцы і восем дзён. На паўторным судзе яму ўсё ж скарацілі тэрмін. Хоць і на гэты раз вінаватым ён сябе не прызнаў...

Калі ў лягернай гісторыі Станіслава Бухнацэвіча была пастаўленая кропка, я ня мог не спытаць у яго пра лёс Эдварда Рудага. Аказалася, што Рудага вызвалілі на шэсьць гадоў раней за Бухнацэвіча і дэпартавалі ў Польшчу. Па дакумэнтах ён быў запісаны палякам. А ў той час выйшла пастанова ўладаў — вызваляць і адпраўляць на Радзіму несавецкіх "ворагаў".

**Мікола Кcallановіч**

## Лыжы па Налібоцкай пушчы

**Сярод модных лыжных маршрутаў Беларусі гэтага году – па Налібоцкай пушчы ад роднай вёскі прэм'ера Кебіча Канюшаўшчыны ці зь іншага боку пушчы – ад Любчы.** Дамаўляцца на начоўку трэба ў вясковых клюбах або школах. Другі цікавы маршрут — па рэчышчы ракі Вулы ад Лепеля да Дзьвіны.

Бегавыя лыжы падзяляюцца на клясычныя, каньковыя ды ўнівэрсальныя. Даўжыня іх мусіць быць на 15—20 сантыметраў большай за ваш рост. Лепш за ўсё, безумоўна, купляць лыжы зь літым корпусам, плястмасавым напаўняльнікам, рыфленьнем, унівэрсальныя ды імпартныя (каштуюць яны ад 130 тысячаў). Нашмат таньнейшыя беларускія. Яны прадаюцца ў спартовых аддзелах унівэрмагаў. Тут вы купіце і танныя драўляныя (7 тысячаў), і адмысловыя паляўнічыя лыжы (за 24 тысячы). Дзіцячыя каштуюць ад 4 да 14 тысячаў у залежнасьці ад матэрыялу, зь якога выробленыя. Побач з лыжамі прадаюцца канькі (53 тысячы) ды санкі (16 тысячаў). У спэцыялізаваных спартовых крамах можна знайсьці і папулярныя ў Эўропе сноўбарды (дошкі для катаньня з гары). Праўда, каштуюць яны каля



500 тысячаў. А вось сноўблэйдаў — кароткіх (90 см) лыжаў для адмысловых піруэтаў, якія ўжо трэці год карыстаюцца вялікім попытам сярод замежных аматараў і прафэсіяналаў лыжнага спорту, — у нас яшчэ не відаць.

Калі не наважыцеся на доўгі лыжны паход па маляўнічых беларускіх мясьцінах, купленыя лыжы можна выпрабаваць на сьцежках паркаў (добрыя дарожкі пракладзеныя ў парку Чалюскінцаў) або ў Раўбічах. Там сярод лыжных трасаў ёсьць і лыжаролерная (павышанай складанасьці), 3 трампліны, малая слаламная траса і спэцыяльная пляцоўка для акрабатычных скачкоў фрыстайлістаў. Штодня з 9-й да 17-й там працуе і служба пракату. Узяць лыжы на гадзіну каштуе 2,5 тысячы, санкі — 1100. Калі вы аддаяце перавагу канькам, але сваіх ня маеце, варта таксама скіравацца да пунктаў пракату. Да прыкладу, на праспэкце Машэрава ўжо працуе адкрыты каток. Звычайныя канькі вы тут возьмеце на гадзіну за 1300, хакейныя — за 2500, імпартныя "Мантана" — за 3 тысячы. У сьвяточныя дні кошты вырастаюць удвая. Працуе каток штодня ад 10-й да 23-й.

## На Каляды

**Вечары пасьля сьвята менчукі могуць правесьці разам зь любімымі музыкамі.** 25 сьнежня БМА-*group* запрашае ўсіх ахвотных у ДК МТЗ на каляднае шоў "Вольныя танцы на Каляды". Танчыць ды калядаваць будуць менскія "Палац", Аляксандар Памідораў, "Пастскрыптум", а таксама магілёўскі праект "Акруга Вольнага Мастацтва", які грае фантастычную акустыку. Пачатак а 19-й, квіткі каштуюць ад 4,5 да 10 тысячаў. А наступныя два вечары, 26 і 27 сьнежня, можна правесьці ў гасьцёх у NRM у ДК "Сукно". Канцэрты пачынаюцца а 19-й, віза ў Незалежную Рэспубліку Мроя на адзін вечар каштуе 8 тысячаў.

## Равенскі й Забэйда ў "Зьмене"

**20 сьнежня, у чацьвер, у кінатэатры "Зьмена" адбудзецца прэзэнтацыя альбому "Магутны Божа", прысьвечанага 115-й гадавіне з дня народзінаў кампазытара Міколы Равенскага.** Можна будзе пабачыць фільм "Успамін пра Міколу Равенскага", сустрэцца з выдаўцамі альбому, рэжысэрам фільму, дачкой М.Равенскага. Пачатак а 18.30. У пятніцу, 21 сьнежня, тамсама пройдзе вечар памяці Міхася Забэйды-Суміцкага. У праграме — паказ дакумэнтальнай кінастужкі "Вяртаньне Міхася Забэйды", сустрэча з выдаўцамі альбому сьпевака "Ластаўкі ў стрэсе", з рэжысэрам фільму. Пачатак а 18.30.

## Баркоўскі ў Калегіюме

**Беларускі калегіюм запрашае заўтра, 18 сьнежня, на публічную лекцыю вядомага польскага крытыка Гжэгажа Баркоўскага.** Тэма лекцыі — кірункі сучаснага мастацкага пэрформансу. Пачатак а 18-й у Купалаўскай бібліятэцы (вул. Харужай, 16). А сёньня ў Беларускім калегіюме Баркоўскі вядзе майстар-клясу.

Уладзімер Мароз

# Калі б нават ён быў аўтарам аднае песьні...



Ціхі беларускі нонканфармізм... Гэтае азначэньне прыйшло падчас працы над дакумэнтальным фільмам пра Міколу Равенскага. Уявілася, як ён у 1941-м стаяў са скрыпічным футаралам пад пахаю ў калідоры гарадзкое ўправы, куды прыйшоў наймацца за скрыпача ў арганізаваны аркестар Опэрнага тэатру. Прыйшоў, каб знайсьці працу, каб выжыць у цяжкую гадзіну. Колькі навалаў перажыў ён, як і ўсе беларусы, але ня збочыў, застаўся сапраўдным сынам сваёй зямлі.

Нарадзіўся Мікола Равенскі 17 сьнежня 1886 г. у вёсцы Капланцы Ігуменскага павету Менскай губэрні (цяпер Бярэзінскі раён). У 1913—15 г. ён вучыўся на рэгенцкіх курсах у Маскве і Пецярбургу. Пасьля працаваў рэгентам і настаўнікам сьпеваў у Навагрудку, зьбіраў народныя песьні. У Менск Равенскі трапіў у 1919 г. Кіраваў хорам пры Беларускім рабочым клюбе, працаваў хормайстрам БДТ, цяперашняга Купалаўскага. У 1921 г. браў удзел у фальклёрнай экспэдыцыі па Случчыне, зладжанай Інбелкультам. Менскае каапэрацыйна-выдавецкае таварыства "Адраджэньне" ў 1922 г. выпускае "Зборнік песень з нотамі" Міколы Равенскага. Цікавая гісторыя з гэтым сьпеўнікам. Яго не адшукаеш сёньня ў Нацыянальнай бібліятэцы — скралі зацікаўленыя людзі, калегі. Можа, так гэта, можа, не. Ня буду сьцьвярджаць безапэляцыйна. Адно ведаю дакладна: пад нумарам 25 у гэтым сьпеўніку значыцца песьня на словы Канстанцыі Буйло "Люблю наш край, старонку гэту", якую цягам дзесяцігодзьдзяў нам прадстаўлялі як народную.

Выпраўляючы Равенскага ў 1923-м на вучобу ў Маскву, урад БССР падараваў яму ўнікальную скрыпку. Зь ёй кампазытар не расставаўся трыццаць гадоў, да самай сьмерці. Яскрава ўяўляецца, як у суладзьдзі зь сяброўкай-скрыпкай нараджалася мэлёдыя неўміручага гімну "Магутны Божа". Было тое вясной-летам 47-га ў далёкім Астэргофэне, беларускім лягеры для перамешчаных асобаў. Равенскі жыў у адной кватэры з бацькамі Зоры Кіпель. У Астэргофэне духоўны гімн і прагучаў упершыню...

У Маскве Равенскі жыў на Малой Мікіцкай вуліцы ў будынку прадстаўніцтва БССР. Тамсама жыў і Ўладзімер Дубоўка. Кампазытар быў старэйшы за паэта на 14 гадоў, але якраз маладзейшы паўплываў на творчасьць старэйшага. Равенскі напісаў песьні на вершы Дубоўкі "О Беларусь, мая шыпшына", "Такая ноч", "Ліпнёвы гімн", якія пасьля арышту Дубоўкі ў 30-м былі забароненыя. Тады ж канфіскаваная была і першая беларуская гістарычная опэра "Браніслава" — таксама плён супрацоўніцтва з Дубоўкам. Мікола Равенскі першым паклаў на музыку вершы Максіма Багдановіча "Слуцкія ткачыхі", "Завіруха", "Не кувай ты, шэрая зязюля". У час вайны напісаў музыку для "Пагоні". З даваеннага плёну яшчэ шматлікія апрацоўкі народных песьняў, гістарычная сюіта па матывах аднайменнага верша Буйло "Курган", першая беларуская апэрэта "Залёты" на словы Дуніна-Марцінкевіча, песьня на словы Цішкі Гартнага "Ах ты, Нёман-рака". Яна таксама лічылася народнаю, гучала на радыё, яе здаўна выконваў мікалаеўскі ансамбль "Коласаўскія землякі".

У 1930 г., пасьля Маскоўскай кансэрваторыі, Равенскі вяртаецца ў Менск, выкладае ў музычным тэхнікуме, а пазьней ў навастворанай Беларускай касэрваторыі. Але ўжо прыклеены да яго ярлык — нацдэм. Найперш за сяброўства і творчае супрацоўніцтва з Уладзімерам Дубоўкам. У 1938 г. арыштаваны і расстраляны ў Курапатах ягоны старэйшы брат Антон, які настаўнічаў у Карзюках недалёка ад Менску. Падчас вучобы Мікола летнія вакацыі праводзіў у брата, дый потым бываў неаднойчы. Загінуў у Курапатах і стрыечны брат Аляксандар. Самога Міколу Равенскага ў 1938 г. выключаюць з Саюзу кампазытараў, знаёмыя пачалі адварочвацца. Творца вымушана адышоў у цень, пра якія песьні гаварыць. Але ня каяўся перад рэжымам, не прыслужваў, як ягоны калега Мікола Шчыглоў, чыя "Кантата аб Сталіне" гучала ў Менску, Кіеве, Адэсе, Харкаве, Тбілісі. У час акупацыі Шчыглоў здаў свой ордэн Пашаны ў гарадзкую ўправу, нават прозьвішча зьмяніў, узяў матчына — Куліковіч. Потым таксама апынуўся ў эміграцыі, шмат зрабіў для беларускай музыкі.

Мікола Равенскі ж ціха і зацята трымаўся свайго. Як да вайны, так і ў вайну. Тады ў гарадзкой управе Антон Адамовіч запытаўся ў яго пра лёс "Браніславы". "Дзе там! Нат каб і дахавалася, дык спапялела б цяпер, у гэтай пажэжы й бамбежы, у якой і нядаўна жонка маладая завілася, як дым, і не знайсьці во ніяк..." "А за пару тыдняў, — піша далей Антон Адамовіч, — прыйшоў і адвітвацца — запрасілі на рэгента ў царкву ў калішні Ігумань, нядаўны Чэрвень".

Першая жонка Равенскага памерла ад родавай гарачкі, пакінуўшы дачку Лёлю (Лену). У час вайны дачка была ўжо дарослаю, стала падпольшчыцай (мянушка "Сініца"). Жыла з Ісаем Казінцом, сябравала зь Людмілай Кашачкінай. Усе трое трапілі ў гестапа, выжыла толькі Кашачкіна. Лёлю расстралялі ў двары Менскай турмы.

Перад вайною кампазытар ажаніўся другі раз — з маладой сьпявачкай Янінай, ягонай вучаніцай. Ад яе нарадзіліся дзьве дачкі, адна, Люда, памерла малой. Яніна Станіславаўна з Вольгай пад акупацыяй жылі гаротна, Равенскі ня змог іх адшукаць, дапамагчы, забраць да сябе ў Ігумен. Кар'ера сьпявачкі ў Яніны Станіславаўны ня склалася: жыцьцё пад акупацыяй, муж-эмігрант, вораг народу. Зь цяжкасьцю выцерабілася на бацькаву сьцяжыну Вольга Равенская (Аляксеенка). Скончыла кансэрваторыю, сьпявала ў хоры Віктара Роўды. Калі ансамбль стаў выконваць "Магутны Божа", спачатку ня ведала, што ўрачыстую духоўную песьню напісаў яе бацька.

У 1944 г. "калябарант" Равенскі мусіў зьехаць на чужыну. Пасьля былі лягеры для перамешчаных асобаў Рэгенсбург, Астэргофэн, Розэнгайм. Усюды ён ствараў ансамблі, кіраваў сьвецкім і царкоўным харамі, нястомна падтрымліваў агмень беларушчыны. У 1950 г. Равенскага запрашаюць у бэльгійскі Лювэн, дзе вучыліся ва ўнівэрсытэце 30 маладых беларусаў. Там ён стварае Беларускі студэнцкі хор, які стаўся адзіным адхланьнем немаладога і ўжо безнадзейна хворага майстра. Папулярнасьць хору выйшла далёка за межы Бэльгіі, беларускую песьню слухалі ў Парыжы, Лёндане ды іншых кутках Эўропы. 10 студзеня 1952 г. Равенскі пісаў у Англію да пляменьніцы Тацяны (Тэрэзы) Руткоўскай, дачкі стрыечнага брата Аляксандра: "...У сучасны момант рыхтуемся да напяяньня грамафонных плітак. Маем шэсьць пліткаў, на якіх будзе зьмешчана 12 песьняў. Больш пакуль ня зможам напець, бо вельмі дорага каштуе. Дагаворы з фабрыкай яшчэ не закончаны, за гэтыя пліткі яна патрабуе дзевяцьсот тысячаў, але думаю, пойдзе на ўступкі. А з 20-га бярэм удзел у шэрагу царкоўных службаў у Брусэлі, дзе адбываецца кожны год так званы "тыдзень супольнай малітвы" па розных касьцелях, за пакутны хрысціянскі Народ за зялезнай завесай".

Людзі, якія ведалі Равенскага, адзначалі ягоную шчырасьць, лагоднасьць, сардэчнасьць, гасьціннасьць, гатоўнасьць кожнаму дапамагчы. У.Нямановіч (Уладзімер Цьвірка) згадвае: "Бывала, пастукаеш да яго: — Гм, — адказваў глыбачэзны бас з-за дзьвярэй. З-за стала, закіданага нотнай паперай, на вас глядзелі ветлыя шэрыя вочы. — А пропуск ёсьць? — пытаўся ён паважна. Пропускам зваў ён жартаўліва віно, што было звычайна люксусам не па студэнцкай кішэні. Гэта ён ведаў, але хоць на жарт ад "традыцыйнае" формы прывітаньня не адступаў".

Памёр Мікола Равенскі 3 сакавіка 1953 г., пахаваны ў Лювэне. У ягоным пакоі на стале ляжаў лісток календара, дзе побач з запісанымі тэмамі да песьняў была зробленая рукою кампазытара рысункавая кампазыцыя: па-мастацку накрэсьленыя альфа і амэга, а пасярод — слова "Беларусь". Помнік на магіле зрабіў скульптар Міхась Навумовіч, беларус-эмігрант, які жыў у Парыжы. Спадчыну падзялілі паміж беларускай грамадой і пляменьніцай кампазытара Тацянай Руткоўскай. Цяжка сёньня сабраць усё ў адно. "Завілася, як дым", і знакамітая скрыпка, нехта прыбраў да рук. Адшукаць бы яе, вярнуць у Беларусь, каб стала нацыянальным набыткам.

З канца 80-х, калі мы ўсе жылі ўзьнёслымі спадзяваньнямі на новую Беларусь, у выкананьні розных калектываў загучаў "Магутны Божа", неаспрэчны духоўны гімн беларусаў. Нават калі б Мікола Равенскі больш нічога і не напісаў, ён бы аднОй гэтай урачыстай песьняй застаўся ва ўдзячнай памяці нашчадкаў, застаўся назаўсёды з намі. У 1993 г. на студыі "Летапіс" кінастудыі "Беларусьфільм" створана дакумэнтальная стужка "Ўспамін пра Міколу Равенскага", аўтарам сцэнару якой выпаў гонар мне быць. Гэты фільм у ліку трох рэжысэра Міхаіла Жданоўскага (яшчэ "Дарога на Курапаты" і "Жаўрукі Беларусі") адзначаны годам пазьней Дзяржаўнай прэміяй Беларусі. І вось да 115-й гадавіны з дня нараджэньня Беларуская Музычная Альтэрнатыва выдала кампакт-дыск "Магутны Божа" з найлепшымі творамі Міколы Равенскага. Стане ён рарытэтам у маёй хатняй фанатэцы, як і ў многіх беларускіх сем'ях.

### Магутны Божа

Музыка М. Равенскага
Словы Н. Арсеньневай

Мерным крокам. Стрымана

Ма - гут - ны Бо - жа! Ула - дар су - сьве - таў, вя - лі - кіх сон - цаў і сэрц ма - лых, над Бе - ла - ру - сяй, ці - хай і вет - лай, рас - сып пра - мень - ні сва - е хва - лы.

**Магутны Божа! Уладар сусьветаў,**
**Вялікіх сонцаў і сэрц малых,**
**Над Беларусяй, ціхай і ветлай,**
**Рассып праменьні свае хвалы.**

**Дай спор у працы, штодзённай, шэрай.**
**На лусту хлеба, на родны край.**
**Павагу, сілу і веліч веры**
**У нашу праўду, у прышласьць дай.**

**Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,**
**Учынкам нашым пашлі ўмалот.**
**Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай**
**Краіну нашу і наш народ!**

Карлас Шэрман

# УСЬМЕШКА

## калядны ліст



Калі б мы здолелі зьвесьці насельніцтва сьвету да аднае сялібы ў сто душ, захоўваючы тыя прапорцыі, якія насамрэч скаліся на Зямлі, сталася б відавочным, што ў сялібе жывуць 57 азіятаў, 21 эўрапеец, 14 амэрыканцаў (з поўначы і да поўдню), 8 афрыканцаў.

Мы б таксама заўважылі 52 жанчынаў і 48 мужчынаў; 30 белых і 70 нябелых; 30 хрысьціянаў і 70 так званых іншаверцаў; 89 гетэрасэксуалаў і 11 гомасэксуалаў; 6 уладальнікаў 59,544108180% агульнага багацьця; 80 душ, якія жывуць у кепскіх умовах; 50, якія пакутуюць ад голаду; 70, што ня ўмеюць чытаць і пісаць; 1 — у агоніі; 1, які нарадзіўся й плача; 1, што валодае кампутарам; 1, які здаваў іспыты па шпаргалках, але атрымаў унівэрсытэцкі дыплём.

Калі б мы разгледзелі сьвет такім чынам, дык сёе-тое нарэшце зразумелі б.

Майце на ўвазе таксама: Вы прачнуліся раніцой хоць збольшага здаровым, і гэта шанец, бо мільёны не пабачаць белага сьвету на наступным тыдні, Вы ня зьведалі асабіста крывавых войнаў, самоты ў астрозе, невыноснага болю ад катаваньняў, жаху ад голаду, і таму Вам жывецца лепей за 500 мільёнаў людзей. Вы наведваеце храм любой рэлігіі без пагрозаў, зьдзекаў ды зьбіцьця, што недаступна 3 мільярдам асобаў. Вы маеце ежу ў лядоўні, апратку на целе, дах над галавою і ложак штоноч, а гэта азначае, што Вы багацейшы за 75,134508123% жыхароў Зямлі. Вы адкрылі рахунак у банку і не пакутуеце ад безграшоўя а, значыць, уваходзіце ў лік 8% прывілеяваных асобаў на Зямлі. Вашыя бацькі яшчэ жывыя і не скасавалі шлюб, а гэта азначае, што Вы ўвогуле даволі рэдкая ў сьвеце асоба.

Калі Вам не надакучыла і вы здолелі прачытаць да канца гэтыя радкі, Вы двойчы блаславёны, таму што, па-першае, хтосьці падумаў пра Вас і, па-другое, Вы ня ў ліку тых мільярдаў людзей, якія ня здольныя чытаць.

Дык працуйце, нібыта ўвогуле на пражыцьцё грошай ня трэба.

Любіце, нібыта ніколі Вам ня здрадзілі.

Весяліцеся, нібыта ніхто Вас ня бачыць.

Сьпявайце, нібыта ніхто Вас ня слухае.

Не забывайцеся на літасьць, якая калісь можа спатрэбіцца і Вам.

Бараніце матчыну мову, бо безь яе Вы — ня Вы.

Беражыце Беларусь, бо безь яе Вы чужынец у сваёй краіне, а мо і рэнэгат.

Жывіце ў ласцы Божай, нібыта рай — гэта зямля. Вашая зямля.

Мы з вамі — пясчынкі часу, якія ўсё ж здольныя дадаваць сьвятло альбо змрок сваім наступнікам.

Перадайце гэтыя словы іншым. Калі няма ахвоты, вядома, нічога ня здарыцца, але ўсё ж зрабіце гэта, і хтосьці яшчэ сумна ўсьміхнецца. Як я...



Беларусь праз 100 гадоў

# Мая мара

І праз сто гадоў я бачу нашу Беларусь вольнай, раўнапраўнай сярод усіх краінаў сьвету, паважнай, ганараванай, у якой усё суладнае. і культура, і эканоміка, і ідэалёгія, і мараль, у якой ня будзе дзьвюхдушша, у якой людзі будуць жыць у поўным разуменьні адзін з адным, а ня гэтак, як сёньня, калі беларус беларуса не пазнае. Ня будзе ані сварак-звадак, ані духоўнай агрэсіі. Людзі адно будуць касіць, сеяць, жаць, малаціць, гуляць вясельлі, гадаваць дзяцей, хадзіць адзін да аднаго ў госьці і мець з гэтага вялікую радасьць.

Нашая краіна праз сто гадоў павінна стацца краінай цалкам безалькагольнай, безтытунёвай. Калі грамадзтва вызваліцца ад гэтых дзьвюх сваіх заганаў, значна палепшае здароўе нацыі, зьменшыцца на дзевяноста дзевяць адсоткаў колькасьць злачынстваў. А што мы маем зараз? Сьвятыя словы "Белая Русь" — сымбаль-назоў нашае краіны — лепім на пляшкі з вадкасьцю, якая губіць чалавечыя душы. На тыя ж пляшкі лепяць і яшчэ адзін *сьвяты* сымбаль — нашых птахаў-буслоў. А гэтыя ж птушкі сымбалізуюць пачатак жыцьця... Ужо сёньня неяк трэба ладзіць наша жыцьцё, каб пакаленьне людзей, якое народзіцца ў 2001 г. і пасьля яго, цалкам выгадавалася з агідай да тытуню і алькаголю. Сьвет алькаголікаў, наркаманаў, курцоў ня мае права на існаваньне. І з гэтаю заганаю Беларусь можа справіцца, толькі калі будзе сувэрэнная, незалежная.

Праз сто гадоў будзе завершаная новая стотамовая беларуская энцыкляпэдыя, у якой праўдзіва адлюструецца ўся наша гісторыя. Пра цяперашняга кіраўніка Беларусі будзе сказана, што дагэтуль ніхто не зрабіў для нашае культуры гэтулькі зла, як ён. Пры ім ліквідаваліся беларускія школы, ігнаравалася мова, зьнікалі людзі. Найлепшыя сыны нацыі сядзелі ў астрогах. Рабіліся спробы ліквідаваць нацыянальную валюту.

Праз сто гадоў у Беларусі ня будзе гвалту, дубінак, кайданоў, вялікага войска... Увесь інтэлект будзе скіраваны на жыватворную стваральную працу

І грошы ў нас будуць новыя. Іх мы будзем называць жытамі. Чаму жытамі? Бо яны ад найважнейшага слова "жыць". Яно аднаго кораня са словам "жыцьцё", "жытло", "жыта", што складаюць аснову нашага жыцьця.

Дзеля здароўя нацыі ў школьную праграму будзе ўведзены курс "Культура харчаваньня". У наступным стагодзьдзі нашыя дзеці будуць хадзіць у школу ў прыгожай сьвяточнай форме з элемэнтамі нацыянальных вышыванак. Кожная сям'я будзе мець ня менш як траіх дзяцей. Гэта будуць любыя бацькам дзеці, а ня так, як зараз: маюць адно і таго часам цураюцца. Шмат хто цяпер замест дзяцей гадуе сабак. І носяцца зь імі, як зь дзецьмі: і мілуюць, і цалуюць, і з рук не спускаюць.

На тую пару зьменіцца і нашая тапаніміка. Зьнікнуць усялякія Фрунзэ, Мясьніковы, Суворавы, Калініны, Валадарскія, якія адно толькі і рабілі, што шкодзілі нашаму народу. Зараз жа праз гэтыя імёны не прабіцца слынным імёнам нашай зямлі. Да гэтае пары ў Менску няма вуліцы імя Ф.Багушэвіча, М.Забэйды-Суміцкага, Я.Лёсіка, Ядвігіна Ш, Аркадзя Смоліча, Аляксандра Ўласава, братоў Луцкевічаў, Палуты Бадуновай...

Будуць вернутыя першародныя назвы нашым гарадам і мястэчкам. Зноў зь любасьцю будзем вымаўляць Рудабелка, а не Акцябар, Янава, а не Іванава, Койданава, а не Дзяржынск.

Праз сто гадоў будуць узаконеныя і нашыя імёны кшталту Алесь, Пятрусь, Кастусь, Андрусь, Міхась...

Зьменіцца і наша літаратура. Яна будзе больш аналітычная, пашырыць свае далягляды, пакажа жыцьцё беларуса ня толькі ў беларускім побыце, беларускай рэчаіснаці, але і за межамі Беларусі.

І праз сто гадоў мы будзем углядацца ў наш фальклёр, шукаць адказу, хто мы такія, адкуль прыйшлі. Усё найлепшае, напрацаванае намі, і праз сто гадоў будзе працаваць на нацыю. Як казкі, будуць глядзець нашы "Паўлінку", "Несьцерку", "Хто сьмяецца апошні"... Але ж за сто гадоў нашыя нашчадкі напішуць і штосьць сваё, годнае іхнага часу.

Праз сто гадоў Віленшчына, Смаленшчына, Беласточчына самі папросяцца ў беларускае гаспадарства, і спрадвечныя землі колішняга Княства Літоўскага зноў будуць пад адным небам. Жыцьцё не стаіць на месцы.

Але на сваім месцы і праз сто гадоў застануцца вялікія рэкі, дарогі, лясы, валуны, зоркі і неба над імі. Шмат якія асушаныя тарфянікі заліюцца вадою і праз гэта збалянсуецца клімат нашай краіны. Мы будзем мець ня толькі дажджы, якія да нас вятры з мора занясуць, але і свае, тутэйшыя, як у нас гэта раней было. Нашы вучоныя распрацуюць тэхналёгію захаваньня сонечнай летняй энэргіі, каб яе выкарыстоўваць у зімовы час. Зімы ў Беларусі стануцца цяплейшыя, накшталт крымскіх.

Можа так стацца, што Беларусь праз сто гадоў будзе мець новую сталіцу — скажам, Навагрудак ці Полацак. Архітэктары нарэшце намацаюць абрысы нацыянальнай архітэктуры і забудуюць нашы гарады ў беларускай стылістыцы. У гэтым жа рэчышчы будуць працаваць і дызайнэры.

Праз сто гадоў паслабяцца моўныя дыялекты, пераважаць будзе літаратурная мова. На сваё месца стануць усе беларускія сьвяты. Скажам, Дзень беларускага друку будзем сьвяткаваць у гонар "Нашай Нівы" ды "Нашай Долі", а ня ў гонар *Праўды*, як зараз. Усё ўладкуецца і з нашым Днём Незалежнасьці...

А на самой плошчы Незалежнасьці бачыцца скульптурная кампазыцыя з тысячагадовай нашай гісторыяй. А пакуль жа наша плошча Незалежнасьці як нямая. Нішто на ёй не гаворыць пра нашу незалежнасьць.

Праз сто гадоў у Беларусі павінна запанаваць уніяцтва. Іншыя канфэсіі таксама будуць шанаваць адну з настарэйшых і найпрыгажэйшых славянскіх моваў, слугавацца ёю ў сваіх сьвятынях.

**Уладзімер Содаль**

—Казкі жыцьця—

# Пяльмені



Зіма. Люд у абдымках маразоў... Мой рагаты тралейбус-алень імчыць мяне да дому сябра — на пяльмені. Я гляджу на горад праз праталіну на ўзорыстым шкле. Нібы рыбіна, што затаілася ля берагоў ільдзіны. Не-не ды зірне: а што там, у вялікім сьвеце? Толькі мая "рака" — цёмная плынь падсьвядомасьці. (І яна вельмі халодная зараз.) Цікава, што месячны квіток на праезд у тралейбусе, маім любімым гарадзкім транспарце, — гэткі ж узорысты, як тое размаляванае марозам шкло. На квітку — крылатае кола (знаёмы вобраз зь нейкіх даўніх-даўніх кніг!). Квіток нагадвае мне кветку, якая месяц спаўняе жаданьні...

Я еду на пяльмені. Страва гэтая — не беларуская, паходжаньнем з Расеі. Але назва яе стала міжнароднай і не перакладаецца. Мяркую, радзіма пяльменяў (альбо іхны "рай") — Сібір. Бо ўсе кнігі кулінарныя разьдзел "Пяльмені" пачынаюць з рэцэпту "Пяльмені сібірскія". "Сі-бір..." — прамаўляю я нараспеў сіне-белае імя гэтай "пяльменнай бацькаўшчыны". У зычных гуках яго мне чуецца імя "Беларусь". Нібыта нейкі містычны белы барс скокнуў з аднаго імя ў другое, празрысты і амаль нябачны...

Пяльмені — маленькія піражкі з прэснага цеста зь мясам. Кінутыя ў кіпень, яны ня тонуць, а гераічна выплываюць наверх — яшчэ больш моцныя і дасканалыя, чым былі да "выпрабаваньня" кіпенем, і цалкам гатовыя да суду і воклічаў захапленьня людзей-багоў.

Беларускі варыянт пяльменяў завецца "калдуны". Замест прэснага цеста — драная на тарцы бульба. І па сваіх памерах яны большыя.

А летувісы дадалі да "мундзірыкаў" крыху варанай бульбы, і страва стала мякчэйшая і шляхетнейшая, чым у нас. І назвалі яны яе "цэпэлінай" (або "цэпэліны"), што ў перакладзе з лаціны, гэткай любімай у іхнай шляхце, а затым і інтэлігенцыі, азначае... "цыбуліны".

Тралейбус затармазіў. Вось я і прыехала!.. "Мне падабаецца, што "пяльмені" рыфмуюцца з "аленямі", — скажу я сябру пасьля прывітаньня. Мы паразумеемся.

**Людка Сільнова**

# Вось сымбаль твой...



*Сп.Сартру, Агіевічу, Надсану, а таксама "Arche-Скарыне" ахвяруецца*

Чалавецтву ўласьціва зь цягам часу забывацца на сапраўдных герояў і не аддаваць ім належнае даніны павагі. Гусі выратавалі Рым ад галаў. І што? Ці выратавала гэта гусей у Рыме ад паяданьня?..

Але беларусы — ня тое, што ганарыстыя рымляне. І нашыя зьвяры — ня тое, што іхныя гусі. У нас бы тыя гусі ня гагалі, мы б іх адразу ў печку!

А вось самыя нашыя зьвяры — дык гэта мухі. Муха — вось сымбаль твой забыты, краю родны! Беларускае нацыянальнае адраджэньне й мухі — бясспрэчна едныя. Гэтая думка набывае ўсё больш пацьверджаньняў як з боку грамадзкасьці, так і з боку навукоўцаў ды абгрунтоўваецца ў салідных дасьледаваньнях.

Возьмем для прыкладу толькі адну тэму — сьвятую для кожнага беларуса Скарыніяну. Цяпер ужо ні для кога не сакрэт, што наш славуты зямляк нарадзіўся пад задыякальным сузор'ем Мухі (*Musca domestica* ў біялёгіі, альбо папросту *Musca* ў астраноміі). А калі ўжо чалавек ад самага нараджэньня знаходзіцца "пад мухай", можна не сумнявацца, што бяз розных нечаканасьцяў і неспадзяванак тут не абысьціся. Нават імя сваё такі чалавек добра памятаць ня ў стане. Калі зь дзяўчынай знаёміцца, называе сябе Францішкам, а на допыце ў пастарунку пачынае даводзіць, што яго клічуць Георгіем ("Затрыманы называў сябе падданым французкай кароны Жоржам Скарыньёнам і патрабаваў спатканьня з францускім амбасадарам. Потым размазваў п'яныя сьлёзы па твары, крычаў "Мянты — казлы" ды пагражаў фізычнай расправай", — дакумэнты з архіваў КДБ дагэтуль захоўваюць нязручную для многіх фальсыфікатараў гісторыі праўду).

Задыякальнае сузор'е Мухі пазначае сабой увесь лёс неўтаймоўнага беларускага першадрукара. І сам Скарына цудоўна ўсьведамляў уплыў Мухі на сваё жыцьцё. Нездарма на вядомым аўтапартрэце ён зьмясьціў выяву аўтэнтычнай беларускай мухі. Праўда, доўгі час зламысьнікі цьвердзілі, нібыта на гравюры выяўленая пчала. І толькі апошнія дасьледаваньні нашага часу дазволілі беларусам сказаць рашучае "Не!" наўмыснаму скажэньню гісторыі. "Не дамо згнюсіць і затаптаць цудоўны сымбаль нашага краю — Муху!" — так гучыць зараз голас усіх сумленных жыхароў Беларусі.

Менавіта муха стала галоўным натхняльнікам Скарынавай дзейнасьці. Бессумнеўныя доказы гэтага ўсё яшчэ прытойваюць у спэцсховах афіцыйныя захавальнікі Скарынавай спадчыны. Аднак аўтар гэтых радкоў спадзяецца, што ён разам са сп.Агіевічам ды іншымі сумленнымі навукоўцамі здолее разьвянчаць ілжывыя міты й дамагчыся праўды. (Праўдашукальнікі могуць таксама зьвярнуцца да грунтоўнага дасьледаваньня Клімковіча й Шайбака "Віта брэвіс, альбо Нагавіцы сьвятога Георгія", выкананага ў выглядзе п'есы дзеля таго, каб пазьбегнуць рэпрэсіяў з боку дзяржавы.) Пакуль жа даводзіцца, ствараючы Скарыніяну, зьвяртацца да ўскосных зьвестак і сьведчаньняў. Так, ужо гаварылася, што Скарына ад самага нараджэньня быў "пад Мухай". Увогуле, бліскавічныя пэрліны беларускага фальклёру даюць навукоўцам шмат матэрыялу для разуменьня Скарыніяны. Напрыклад, дасьледчыкі дагэтуль не маглі зразумець матываў вяртаньня першадрукара з Прагі на Бацькаўшчыну. У той час, калі многія беларусы толькі зайздросьліва марылі паехаць папіць славутага чэскага "праздрою" ды завітаць у Беларускую рэдакцыю радыёстанцыі "Свабода", Скарына едзе з Прагі ў Беларусь. Некаторыя дасьледнікі кажуць, што Скарына ўцякаў ад крэдытораў. Другія абвяргаюць іх і кажуць пра падманутых мужоў. Трэція — пра перанос чэскага досьведу выбараў у Беларусь. Насамрэч трэба проста прыгадаць, што муху (а муха — неаспрэчны знак Скарыны) не падманеш: яна заўсёды ведае, дзе пахне... пардон, Бацькаўшчынай. Вось жа й Скарыну вабіла Бацькаўшчына. Пацьверджаньне гэтаму — славутыя радкі са Скарынавай прадмовы, якія ўпершыню падаюцца ніжэй у арыгінале: "Як пціцы ведаюць норы свая, як рыбы ведаюць гнёзда свая, як мухі ведаюць кучы свая..." У распаўсюджаным зараз варыянце, як ведама, фальсыфікатары беларускае старасьвеччыны памянялі "мух" на "пчолаў". Але ж праўду надоўга не схаваеш! Яна ўсё адно ўсплыве...

Мажліва, што ў блізкай будучыні грамадзкасьці варта будзе паставіць рубам пытаньне пра ўсталяваньне помніка Мусе (*Musca domestica*). Можна не сумнявацца, што сп.Белы знойдзе вартага скульптара для ўвасабленьня праўдзівага сымбалю нашае Бацькаўшчыны — Мухі ў Скарынавай барэтцы. Гэты помнік зойме годнае месца, напрыклад, на Кастрычніцкім пляцы Менску, дзе да яго змогуць ускладаць кветкі маладыя пары ў дні шлюбу й аматары нашае спадчыны — у дні дзяржаўных і нацыянальных сьвятаў.

**Жбан Няўмера**

# АД ГРАЖДАНА

**Шматпаважаная рэдакцыя газэты "Наша Ніва" ў ліцэ спадара Начальніка!**

Я правёў самыя шырокія кансультацыі ў рэдакцыі на прадмет неапублікаваньня майго выдатнага дзісьціха пра Шахеразаду, які я даслаў вам на пазамінулым тыдні, а на старонках газэты гэтак і не пабачыў. Ня буду спыняцца на тым, што з боку формы ў маім творы ўсё ў поўным парадку: і гэкзаматар, і пэнтаматар на месцы, водступ перад другім радком ёсьць, а адсутнасьць цэзуры — гэта вынік перайманьня творчага мэтаду паэта-паліндраміста Жыбуля, які шчапяцільнейшым вобразам паўліяў на маё творчаства, чаго я ўвогуле ад вас і чытачоў ня ўтойваў.



Разышліся мы з рэдакцыяй не па форме, а па зьмесьце: у вас, як у таго расейскага юрыстага Жырыноўскага, усё адназначна: калі вы ў дзісьціху ўжываеце слова "хер", дык гэта тое, на што вы падумалі, і чаго я не магу ўголас назваць сапраўдным яго імем, калі "зад" — дык зусім наадварот, як антыпод папярэдняму, так бы мовіць — антонім.

А тым часам я вёў, інасказацельна, канечне, сур'ёзную гаворку пра рэформу правапісу, менавіта пра літару "хер", якая раней, да колішняй расейскай рэформы, называлася "херЪ" і заўсёды ў расейцаў стаяла ў задзе слова, а нават стаіць часам у іх і сёньня, як, напрыклад, у назве расейскай газэты "*КоммерсантЪ*", ці нават скарочана, у выглядзе лагатыпу — "Ъ". Бачыце самі, хер і сёньня ёсьць хер, толькі бязь цьвёрдага знаку ў задзе, а я ў паэцічаскай форме заклікаю канчаткова выняць яго аттуда, удаліць, пакінуўшы толькі ў сярэдзіне слоў. Дзякаваць яшчэ, — нас, беларусаў, гэтая хярня (лічна вам дадам, каб зноў не пацягнулі сваім смыкам: "хярня" — гэта тое самае, што і "бздура, глупства") неяк абышла бокам, не зачапіла, наш апостраф яшчэ нікому клёку не завярнуў, хоць і ў нас сваіх праблемаў па самае годзе (і тут не падумайце, як Жырыноўскі!).

Лічна я ўжо траха абвыкся з новымі веяньнямі, мне што "наркомаўка", што "тарашкевіца", што ўдасканаленая "вячоркаўка", ведаеце, — адна халера, аўладзеў усімі. Але ж ня ўсе ў нас яшчэ такія разумныя, дык жа, спадзяюся, калі ў мяне штосьці ў граматнасьці ня зладзіцца, мяне заўсёды паправіць ваш паважаны аўтар Міколка Раманоўскі, хто-хто, а ён, дзеткі мае, — валачэ-э-э! А вы сваімі нехлямяжымі захістамі толькі псэўдамараль усугубляеце! На газэтную мараль у нас якраз і ёсьць таварыш Жандар, якога я ведаю як таварыша прынцыпова палажыцельнага, не цярпяшчага, якому я і прысьвяціў свой не абы-які верш. Мы, Граждан і Жандар, — нас на рыфму ставіць можна! — мы стаялі, стаім і стаяцьмем, пакуль дыху хопіць, на абароне высокай маралі, не вычытваючы, як гэта робіце вы, мусібыць-такі з прычыны недастатковай адукаванасьці і выхаванасьці, ніякай мацюгальшчыны ў мастацкіх творах, — каб я так жыў, калі вы ў маім вершы пакажаце мне хоць адно нецанзурнае слова! А мы з тав.Жандарам, пакуль вы ў носе калупаліся, тым часам ВПШ пакančалі, ня вашыя каледжы! А вы мне тут яшчэ нешта казаць будзеце!..

Дык жа ўсё-такі ці друкавацьмеце вы мой твор, а ці не, ці мне судзіцца з вамі, а ці не? Бо калі ўжо судзіцца, дык я ведаю, да каго мне зьвярнуцца, каб высокая маральнасьць маіх твораў была абаронена. Ідзецца ў мяне не пра карысьлівасьць, не пра зьдзірства — Драздоў я сабе на вашыя ганарары ня збудую, высяляць нікога таксама не зьбіраюся,— ідзецца зноў жа сключыцельна пра справядлівасьць і свабоду мысьленьня, бо ўжо калі вашая газэта мысьліць свабодна і культурна, дык чаму й ня я!

I от жа такі з павагаю і з вамі

**Ваш ГражданЪ!**

**показка**

Пытаньне: Ці выжыве Лукашэнка пасьля ядзернага выбуху?

Адказ: Так. Але ён будзе кіраваць больш дасканалымі істотамі.

**Паводле www. jazep.f2s.com**

# Мэдыкі жартуюць

**Калі мэдыкі жартуюць, пацыентам бывае не да сьмеху. 4-ы міжнародны фэстываль мэдыкаў-студэнтаў завершыўся ўчора ў Менскім дзяржаўным мэдінстытуце. Першы жарт у назьве фэсту: міжнароднасьць забясьпечылі госьці з Варонежу й Яраслаўлю (іх прадставілі, адпаведна, блізкім і далёкім замежжам). Прыехалі таксама студэнтымэдыкі з Гомелю, Горадні, Віцебску.**

"За палітыку" мэдыкі жартавалі мала. Улюбёныя тэмы — сэсія, аналізы й нетрадыцыйная полавая арыентацыя. Адзіны палітычны жарт — ён жа адзіны па-беларуску — тэатар ценяў "З жыцьця тыбэцкіх ламаў". "Выкапаюць ламы ядомую расьліну — карэньчык Вярхоўнаму бажаству, упалююць жывёлу — кавалачак Вярхоўнаму бажаству. А ці было тое бажаство, ці не — ніхто ня ведаў. Толькі раз на год спускаўся Нехта зь вяршыні гары й разганяў клюшкай тыбэцкую апазыцыю".

**Крысьціна Пучынская**



### *Наступны, Калядны нумар "НН"* выйдзе

не 24-га, а 28 сьнежня, **у пятніцу**.

Пытайцеся апошні сёлета нумар "НН" у кіёсках з **28 сьнежня**.

Ён выйдзе на 24 старонках з вынікамі году і "Сямю апавяданьнямі на сем зімовых вечароў".



## Прыватныя абвесткі

***віtаньні***

**Вэраніку, Міхася і Злату** віншуем з нараджэньнем Казіка. Казік (старэйшы), Басік і Максім

**Дзеткі беларускай групкі садка №14** віншуюць Злату з нараджэньнем брацікa. Трымай моцна! Хай расьце здаровы!

**З Калядамі** віншую ўсіх каталікоў

**Віншуем усіх** з надыходзячым Новым годам і Раством Хрыстовым! Вольны край

**Віншую будучага геоляга** Віталя К. з Днём народзінаў (12 сьнежня). Посьпехаў у жыцьці і вучобе. Віктося

**Паліна**! Віншую цябе з Днём нараджэньня. 20 год – усё толькі пачынаецца! (Міх.)

**Чарапашку** з Днём народзінаў! Пакуль жывуць беларусы – жыве Беларусь! Але-але-але-але!!! Ляхс

**Найлепшую ў сьвеце Лінгвістку-Натальку** віншуем з Днём народзінаў! Шчасьцейка і каханьнечка моцнага табе! Турыстка

**Чарапашка**! Расьці дужай ды вялікай! Спадзяюся, што хутка стану сапраўднай кумой

**Самую жыцьцярадасную** і свабодалюбівую Чарапашку віншую з Днём народзінаў! Не губляй веры ў лепшую будучыню! ВТ

***ідэі***

**Адвэнт.** Час зазірнуць у душу, ачысьціць сэрца ад усяго злога, крыўдаў, нянавісьці...

**Адвэнт**. Час адчыніць сэрца на любоў і дабрыню. Час прабачаць...

**Мы за Беларусь**, мы разам зь Беларусяй. Жыве Беларусь! Вольны край

**Ну што?** Зьняў Лявон кватэру ці не? Можа, грашыма дапамагчы беднаму? (Міх.)

**Удзел ва ўсялякіх "саюзных"** працэсах – здрада Беларусі. Ганебна нават уздымаць гэткія пытаньні

**Нацыяналісты ўсіх масьцей** – настойлівая просьба не дубляваць памылкі, дапушчанай "Маладым Фронтам" у "Зборы Беларушчыны": назва гораду на паўднёвым усходзе Беларусі па-беларуску – "Гомель", а ня "Гомля", але можна "ў Гомлі", "за Гомлем". Гомелец

**Бяздушша** губіць нас і калечыць жывыя сэрцы. А гоіць толькі шчырае каханьне і пяшчота. Той самы закаханы юнак

**Удакладненьне.** Беларускамоўная аптэкарка ў паліклініцы на Энгельса, 17, а ня 47

***кватэра***

**Здыму кватэру** ў адзін пакой да 60 у.а. Пэйдж.: 207-00-00, аб.17686.

***кантакты***

**Эвангельскія хрысьціяне-баптысты запрашаюць** на набажэнствы штонядзелю а 15-й на Чайкоўскага, 37. Браты й сёстры

***Viktaru Zelezny***, напішы: 212003, Магілёў, п/а 3, а/с 13

***кнігі, музыка, net***

**БМА!** Дзе новыя касэты беларускіх бардаў? Ці слухаць Лукашэнку па БТ? Вэраніка

**У Гомелі ёсьць** новыя музычныя альбомы (С.Сокалаў-Воюш і "*Hard Life-Heavy Music*"). Т. (у Гомелі): 45-11-51

**Чакайце ў Гомелі** новы альбом "Хавайся ў бульбу!" гурту "Крама"! Т.: 45-11-51

**Шукаю інфармацыю** пра старыя паштоўкі Гомеля 1890—1950 г. Т.: (0232) 48-38-91; talaka@tut.by

**Хутка зьявіцца сайт** моладзевага аб'яднаньня "Вольны край". ikbel@tyt.by

***куплю***

**Набуду кутнюю канапу** ў добрым стане. Т.: 544-21-63 (Марына)

**Набуду ў Віцебску** вырабы з выявамі беларускае нацыянальнае сымболікі. hvil@tut.by

***прыму падарунак***

**Ліцэіст** з удзячнасьцю прыме ў падарунак кампутар. Т.: 285-88-81 (Вячаслаў)

***праца***

**Перакладчык**, у т.л. сынхронны, з ангельскай шукае працу. Вялікі досьвед працы ў АБСЭ (магчыма разавая праца). Т.: (8-029) 60-22-721, 235-04-47

**Бізнэс-кансультант** дапаможа вам павялічыць аб'ёмы продажу. Т.: 284-07-09

**Беларуская мова, літаратура**, гісторыя Беларусі. Пісьмовыя працы, прыватныя ўрокі. Якасна, нядорага. Т.: 235-18-72 (пасьля 16.00)

**Дапамагу пачаць сваю справу** ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Могуць усе! Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

***друкарка***

**Прадаю друкарку** зь беларускім і расейскім шрыфтамі. Т.: 289-72-41

**НАША НІВА — КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

**Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537**

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________



**жарт**





**НАША НІВА**
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Кузьнечык |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**


6 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты "Известия", д. 8, кв. 173.
Наклад 3684.
Нумар падпісаны ў друк 16.12.2001.
Замова № 7363.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а